# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 21 (3237) Год LXIII Беласток, 27 мая 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




Пад пальмамі...→3



Філіпіны→12

❖Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Фестываль пяючай душы



■ Дырыжоры ўзнагароджаных хароў

**У днях 16-20 мая адбыўся ў Беластоку, у канцэртнай зале філармоніі, XXXVII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2018”. Ганаровы патранат над фестывалем, у стагадовы юбілей адраджэння незалежнасці Польшчы, трымаў Прэзідэнт Рэчы Паспалітай Анджэй Дуда, а мастацкі патранат — маэстра Кшыштаф Пэндэрэцкі. У ліку галоўных патронаў фестывалю былі таксама Саюз польскіх кампазітараў, прэзідэнт горада Беластока і прэзідэнт горада Варшавы.**

Журы сёлетняга фестывалю традыцыйна склалі праф. Рамуальд Твардоўскі з Варшавы, праф. Лэся Дычко з Кіева, Анатолій Кісялёў з Масквы, праф. Віялета Мілкоўская з Беластока і а. Юры Шурбак з Варшавы. На фестываль былі заяўлены 30 хароў, у тым ліку адзін з Лівана і адзін з Лондана, якога ўдзельнікі з копцкага Егіпта. Па адным хоры прыехала з Балгарыі, са Славакіі, Малдовы, Латвіі, два з Літвы... З Расіі прыехала сем хароў, з Беларусі, Польшчы і Украіны — па пяць.

Інаўгурацыйны канцэрт выканаў Акадэмічны камерны хор „Хрэшчатык” з Кіева, мінулагодні пераможца Фестывалю. Фестывалю спадарожнічалі канцэрты ўдзельнікаў фестывалю ў розных мясцовасцях Польшчы: Варшава, Кракаў, Люславіцы, Беласток, Сейны, Нарва, Міхалова, Саколе, Легіянова, Студзянкі, Бельск, Белавежа, Крынкі, Васількаў, Чаромха, Цехановец, Шчучын, Гайнаўка.



■ Копцкі хор з Лондана



■ Хор з Адэсы

Сёлетні фестываль, гэтак жа як і ранейшыя, сабраў шырокую палітру выканаўцаў, якія прадстаўлялі багаты спектр царкоўнай музыкі — не толькі такіх класікаў як Сяргей Рахманінаў, Павел Часнакоў, Аляксандр Архангельскі ці Дзмітрый Бартнянскі — але і менш вядомых кампазітараў. Былі таксама прэзентаваны творы членаў журы Рамуальда Твардоўскага, Лэсі Дычко ды Анатоля Кісялёва.



■ Дырэктар фестывалю Мікола Бушко

У катэгорыі прыходскіх хароў першае месца прысуджана Архірэйскаму хору кафедральнага Успенскага сабора з расійскага Уладзіміра, два другія месцы хору царквы Іверскай іконы Багародзіцы з беларускага Гомеля ды жаночаму хору расійскай Санкт-Пецярбургскай мітраполіі, трэцця месцы прызначаны мужчынскаму хору Кошыцкага дэканата са Славакіі і харавому ансамблю Праваслаўнага вучылішча са Смаленска ў Расіі. Спецыяльным вылучэннем за захоўванне і прапагандаванне выдатных пеўчых традыцый

працяг☞10



# Пуста і без густу

Ёсць такое выслоўе, што пра густы не спрачаюцца. Яно можа і верна, калі няма чаго есці, альбо калі зусім няма выбару. А ўвогуле пра густы, на маю думку, дыскутаваць можна. А калі не спрачацца пра іх, то абмяркоўваць напэўна. Уласна гэтым чалавецтва займалася ўсю сваю гісторыю. Спрэчкі пра густы мелі розны характар — ад агрэсіўна шкодных да вынікова канструктыўных, хоць апошнія і здараюцца намнога радзей.

Раз у год жыхары многіх еўрапейскіх краін жарсна спрачаюцца наконт песеннага конкурсу Еўрабачання. Асабіста я лічу гэты нібыта спабор усё больш прафанацыйным. Да ўсяго не люблю папсовую музыку ў прынцыпе. Але ж наўкола многія знаёмыя глядзяць гэты конкурс, так што міжволі ў нейкай ступені за ім сочыш. Часу, а тым больш жадання, глядзець увесь конкурсны спабор у мяне няма, але ўжо пасля завяршэння Еўрабачання на адным з сайтаў убачыў спасылку на дзесяць першых месцаў. Пачаў зверху ад пераможцы — прагляд і праслухоўванне зняпраўдзілі ўсе мае, нават самыя скептычныя, чаканні. Прозвішча і пераможцы, і краіны, тут не маюць нават значэння. Тое, што перамагло сёлета на Еўрабачанні, ні песняй, ні музыкай назваць у прынцыпе нельга. Узброіўшыся далей думкай, што горш быць ужо не можа, пачаў глядзець наступныя месцы, цярпення хапіла яшчэ на тры нумары, пасля чаго спыніўся.

Яшчэ раз задумаўся, можа прычынай асабістага непрымання такіх песенных твораў ёсць мая нелюбоў да ўласна попмузыкі. Але ж, калі выканаўца сапраўды адметны і таленавіты, то гэта неяк прымаецца практычна ўсімі. Так было, прыкладам, з прадстаўніком Нарвегіі, ураджэнцам Беларусі Аляксандрам Рыбаком, які выйграў конкурс Еўрабачання ў 2009 годзе. А многімі гадамі раней на ім перамагала шведская «АББА», якая пазней стала пасапраўднаму знакамітым гуртом. Але апошнія гады пераможцы вызначаюцца паводле прынцыпу «чым больш па-вычварэнску, тым болей шанцаў». Не думаю, што гэтых лаўрэатаў вызначае галасаванне наіўных тэлегледачоў. Наадварот, перакананы, што галоўныя месцы распісваюцца ў кулуарах арганізатарамі гэтага фальшывага шоў. Іншае пытанне — чаму безгустоўнае «абышто» навязваецца шырокім масам як лепшае. Лішне ўжо казаць, што самі крытэрыі гэтага конкурсу надзвычай размытыя. Але заканамернасці прасочваюцца выразна — прыкладам, пераможцы, выконваючы свой нумар на нацыянальнай мове, практычна немагчыма. А чым больш безгустоўнасці і вычварэнства, якія называюць эпатажнасцю і арыгінальнасцю, тым больш шанцаў.

У нашай краіне ўсё больш выканаўцаў спяваюць зараз па-беларуску. У пэўным сэнсе гэта становіцца тэндэнцыяй і нават модай, што можна толькі вітаць. Але тут іншая бяда — многія гурты і салісты проста абыякава ставяцца да роўню мовы сваіх песень — графаманскія тэксты, дзікія рыфмы, шматлікія калькі з іншых моў, пераважна расейскай, няправільнае скланенне слоў, памылкі ў канчатках — усё гэта ідзе валам і часта псуе ўражанне ад някепскіх у цэлым песень. Іншыя выканаўцы, тое ж сама, як і пісьменнікі, мэтна пішуць на трасянцы, але трасянка таксама мае свае заканамернасці, а ў большыні такіх творцаў іх ведання няма.

Так што калі параўноўваць цяперашні ровень песеннага густу беларускамоўных выканаўцаў рок- і поп-музыкі са спевакамі дваццаці-трыццацігадовай даўніны, параўнанне будзе відавочна на карысць «дыназаўраў». Тое ж самае можна яшчэ больш упэўнена сказаць пра журналістаў і пісьменнікаў. Магчыма, цяперашні стан моўнай культуры — гэта такая хвароба росту. Але хутчэй справа ў элементарнай абыякавасці. Маладыя творцы ў большыні абыякава ставяцца да слова. Бо заўсёды ж ёсць да каго звярнуцца і пракансультавацца. А кожнаму новаму твору патрэбна «свежае незамыленае вока». Нават вялікі паэт Ніл Гілевіч заўсёды звяртаўся да сяброў з просьбай рэдагавання сваіх вершаў. А вось цяпер большыня стараецца хутчэй выкінуць свае песенныя ды іншыя «шэдэўры» на публіку. І паляцелі ўсялякія «талеркі і стаканы», як у адной беларускамоўнай папсовай песенькі. А шкада, бо кожнае дапрацаванае і шліфаванае слова — гэта і ёсць тая цаглінка, якая ўзвышае мастацкі твор ці публіцыстычны артыкул. А ўрэшце і фармуе адпаведны густ.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Мастацтва затоптвання



Мой рост, які налічваў 186 см ад падлеткавых гадоў і запісаны ў старое пасведчанне асобы як «высокі», пацярпеў сакрушальны гвалт. Раптам з «высокага» я змяніўся ў «сярэдняга». Гэта здарылася ў гайнаўскай бальніцы, куды я трапіў цалкам упэўнены, як аграмадны, хоць злёгку сагнуты хваробай, даўгун. Сведчылі аб тым мае дакументы. Там, супраць сваёй волі, я быў ПАМЕНШАНЫ. Падазрэнне, што бальніца ў Гайнаўцы здзейсніла растрату 4 сантыметраў майго асабістага быцця, было вельмі праўдападобнае. У бальнічным прыёме тройчы вымералі мяне і ўзважылі ў адпаведнасці з існуючымі працэдурамі. Вынік вымярэння вышыні кожны раз быў хлуслівы. Паводле супрацоўнікаў бальніцы я мераў толькі 182 сантыметры! «Вярніце мае 4 сантыметры!» — зароў я. Неадкладна! Я ўжо рыхтаваўся адбіць іх сілай, калі з дапамогай спалоханых медсясцёр уварваўся ў маю палату немалады лекар: «Вы проста стапталіся!» — сказаў ён з усмешкай.

Ну як «стаптаўся»? Праўда, у жыцці прайшоў я шмат. О, так, я мог бы трошку стаптацца. Але няшмат. Трошачкі. Але не так, як ПіС, які растаптаўся цалкам. І не таму, ШТО ён зрабіў ганебнае (таму што не ўсё), але ЯК гэта зрабіў (на жаль, заўсёды) у надзвычай напышлівы, некампетэнтны, дзёрзкі, без якой-небудзь адчувальнасці і ўвагі да палітычнай прыстойнасці, грамадскага прызнання і міжнародных стандартаў спосаб. Дастаткова ўжо сорамна за гэтыя абуральныя факты. Толькі каму з-за гэтага балюча?

Лежачы ўжо на бальнічным ложку, прыгадаў я старажытных бематыстаў. У старажытнай Грэцыі яны займаліся прафесійным таптаннем, што прыносіла ім вялікі грамадскі прэстыж і значныя прыбыткі. Аднак, не кожны мог стаць бематыстам. Як правіла, гэтая прафесія ўспадкоўвалася, часам даступная была праз усынаўленне, але заўсёды патрабавала праходу складаных ступеняў ініцыяцыі, якая ўключала веданне правілаў геаметрыі, арыфметыкі і мнеманічнай тэхнікі для палягчэння запамятавання лікаў, і нават дыхальныя і расслабляльныя практыкаванні. Асноўным заняткам бематыстаў было вымярэнне вялікіх адлегласцей шляхам падліку ўласных крокаў. Скажам, якая фактычная адлегласць ад Афін да Спарты? Або сёння: з Гайнаўкі да Варшавы? Гэтыя адлегласці і значна большыя давялося прайсці бематыстам *per pedes*, на сваіх уласных нагах, вымяраючы жаданую адлегласць, крок за крокам, не занадта хутка і не занадта павольна, у сонца і дождж, заўсёды мерна і ва ўстойлівым рытме. Дакладна.

Старажытная Грэцыя гэта краінка ў параўнанні з імперыяй Аляксандра Македонскага. Янараспасціралася на Македонію і Грэцыю, праз Егіпет, Месапатамію, аж да Індыйскага акіяна. Усе гэтыя здабытыя землі па загадзе Аляксандра стоптвалі ўпалцяльныя бематысты. Дзясяткі тысяч кіламетраў пройдзеных не проста так, а з арыфметычнай дакладнасцю, якая сёння здзіўляе. Вось бематысцкія разлікі, што варта падкрэсліць з захапленнем, маюць у сярэднім толькі 5% адхілення ў адносінах да сучасных вымярэнняў на аснове сучасных тэхналогій.

Без сумневу, вар'яцкія заваёвы Аляксандра Македонскага вызначылі залаты перыяд для прафесіі бематыстаў. Два стагоддзі пасля, калі грэкі страцілі культурнае першынство, мала хто памятае іх, нават калі попыт на іх умеласці быў вялікі. Але не ў збяднелай культурна і палітычна Грэцыі, толькі ў Егіпце. Дакладней, у Александрыйскай бібліятэцы, напоўненай да краёў не толькі мудрымі ведамі, але вучонымі галовамі. Адзін з іх, вядомы як Эратасфен, схацеў змераць з дапамогай малой хітрасці акружнасць Зямлі, а затым абвясціў пра гэта ўсім, склікаючы да сябе такіх самых бематыстаў, але не для таго, каб адправіць іх у падарожжа па ўсім зямным шары. Меркаваў, што для адпаведных разлікаў яму трэба ведаць адлегласць, што раздзяляе два гарады, Александрыю і Сіене (сучасны Асуан), і розніцу кут падзення сонечных праменяў, вымераны аднача сова ў абодвух гарадах. А тыя марныя бематысты прыбылі шматлюдна, ды — на асліках і вярблюдах. Мабыць, спалохаўшыся жахлівай задачы. Нягледзячы на гэта, Эратасфен пагадзіўся наняць... вярблюда. Ён ведаў, што гэтая жывёла, калі яе не паганяць нахабна, мае вельмі ўстойлівы крок. Дастаткова перакласці яго вярблюжую даўжыню на мерку чалавечых. І так старажытныя людзі, дзякуючы гарбатым жывёлам даведаліся, якая акружнасць Зямлі. У гонар Эратасфена трэба прызнаць, што яго ныя разлікі мінаюцца толькі на 2% з сучаснымі.

Я прызнаюся, што вярнуўся мне добры настрой, калі нагадаў пра адважных бематыстаў Аляксандра Македонскага. Вось дык яны стоптваліся! Але па-чалавечы, з павагай да правіл і прынцыпаў свайго мастацтва. Не так як ПіС.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Рай на зямлі (2)

Тыдзень таму назад пісаў я пра зямное ўяўленне прыроднага раю, асабліва ў пратэстанцкай літаратуры, а зараз хачу крыху распавесці пра адно месца ў Беластоку, якое напэўна ў гэтую пару года дае магчымасць самарэалізавацца кожнаму з нас у сваёй асабістай, райскай кветачна-агароднай прасторы. Гаворка ідзе пра сельскагаспадарча-таварную біржу па вуліцы Андэрса, якая для мяшчанска-дачных беластачан, асабліва па суботах, становіцца месцам паломніцтваў. У генетычна-ментальным плане беластачане ў сваёй пераважнай большасці надалей з'яўляюцца сялянамі. Вось менавіта гэты радавод і папіхае нас усіх у тое месца, якое прываблівае вока і вуха сваёй свойскасцю і гаманлівасцю ды нагадвае былыя маламестачковыя кірмашы. Я таксама вельмі люблю рабіць там пакупкі і раблю гэта з найбольшай асалодай. Менавіта толькі там магу купіць абсмаленую вясковую курку і зварыць на ёй расол, ад якога паху і смаку балдзеюць нос і паднябенне. Казінае малако, сыры, яйкі, саланіна, вяндліна, качкі і індыкі з натуральных куратнікаў і такога ж яшчэ кармлення можна набыць у любым варыянце, асабліва перад каляднымі ці велікоднымі святамі. Ёсць таксама адзін любімы мною куточак гэтага месца — два рады сталоў, на якіх гаспадарыць дзелавітыя беларускія жанчыны з душэўна блізкай нам суседняй краіны. Колькасць прапанаваных там тавараў хатне-прадуктова-лячэбнай вытворчасці дазваляе пабываць на пакупках у Рэспубліцы Беларусь, не паставіўшы там ані на хвіліну сваёй нагі. Таму, як мне здаецца, распрацоўшчыкі праекта пра беларускія месцы Беластока абавязкова павінны ўключыць сельскагаспадарча-таварную біржу, таксама як і базар па вуліцы Кавалярыйскай, у яго віртуальны і папяровы варыянт. Таксама ўвогуле не разумею, чаму беластоцкія ўлады ў сваіх прамацыйных матэрыялах — і ў друкаваных, і ў аўдыёвізуальных — сароменца паказаць адметнасць і прываблівасць Беластока. Пры тым кожны добра ведае, што ў замежных турыстычных падарожжах усе любяць трапляць на мясцовыя базары, на якіх можна затаварыцца тутэйшай прадукцыяй ці пакаштаваць смакаў чужаземнай яды. Ніхто нават не зняў фільма пра беластоцкія базары. А гэта ж яны ўваходзяць у лік любімых месцаў пабыўкі і адпачынку беластачан. Дык чаму ж тут спрацоўвае ізноў нейкі комплекс непаўнацэннасці ўладароў горада і ваяводства? Нейкая зацюканасць, не разумеючая таго кшталту багацця правінцыйнасці, якая схіляе хаваць і не хваліцца тым, што ёсць натуральным і прывабліваю каларытам горада? Значна цікавей многім турыстам было б правесці час у суботні ці нядзельны ранак у гэтых месцах, чымсьці путацца па пустым і засмечаным у гэтую пару Рынку Касцюшкі. А колькі своеасаблівых дыялогаў паміж пакупнікамі і прадаўцамі можна пачуць, з якіх могуць узнікнуць не толькі анекдоты, але і літаратурныя сюжэты. Я сам быў не раз іх гледачом і слухачом.

Пабываўшы на біржы два тыдні назад, а стараюся хадзіць туды з заплечнікам пешшу, адчуў я сябе няйначай як на біткомнабітых людзьмі вуліцах філіпінскай Манілы з рэпартажу Міколы Ваўранюка. Колькасць людзей, прыйшоўшых туды ў суботу ідзе напэўна ў добрыя тысячы. З-за людзей і машын нельга было проста прабіцца праз натоўп. А большасць пакупнікоў у свае шыкарныя машыны несла як трафейную звярыну, што найменш кшталту дзіка ці аленя, мяшкі з агароднай зямлёй, расаду і кветкі, кветкі, кветкі. Такую ж самую прыцягальнасць маюць бельскі і гайнаўскі рынкі, на якіх з асаладай і захапленнем адводзяць сваю душу жыхары і прыезджыя ў гэтыя гарады. Серада ў Гайнаўцы і чацвер у Бельску-Падляшскім таксама для вясковага наваколля гэтых гарадоў з'яўляюцца тымі днямі, у якіх яны любяць бываць найчасцей. Вядома з мэтанакіраваным жаданнем, каб туды патрапіць у ролі пакупніка, але яшчэ, на шчасце, і прадаўцом натуральных прадуктаў сялянскай гаспадаркі. Да канца не зваліся залатыя рукі народных майстрых і майстроў. Тут таксама гэтымі днямі аж гудзе ад дыскусій і размоў, у якіх магчыма яшчэ пачуць усё багацце дыялектаў беларускай мовы ў жывым, каларытным гучанні — апошняя астраўкі нашага адыходзячага моўнага раю.

**Яўген ВАПА**



# Пад пальмамі **ў Міколы Цудатворца** (ч.2)

Наш утульны пансіянат знаходзіўся ў сэрцы горада. З вышыні балкона распасціраўся від на Адрыятычнае мора.

Ужо ў першы дзень пасля прылёту мы абышлі суцэльны цэнтр і ледзь не папалі ў Санта-Нікольскі касцёл.

Аднак гэты момант хацелася неяк вылучыць, прыдаць яму святочнасці і надзяліць выключнай увагай і пачуццямі. Схадзіць да мошчаў святога цудатворца Міколы разам з патокам турыстаў, быццам выпадкова і не да канца па сваёй волі, на хвалі звычайнай зацікаўленасці — такога нам не хацелася. Ды і сама паездка была прымеркаваная да нядзелі, каб у гэты дзень здзейсніць паклон...

— Не, не трэба... спяшацца!

І дзіўна як вокамгненна засмактала месца.

Суботнім адвячоркам цэнтр горада відавочна ажыў, але не дзякуючы турыстам. Уладу пераняла моладзь і падлеткі. У Бары стабільная дэмаграфія — лік моладзі роўны ліку пенсіянераў. І зараз яны тусаваліся на прыморскім праспекце, дэманстравалі пачуцці і эратычную гатоўнасць. Большасць з іх хадзіла ўжо парамі, згодна з класічнымі правіламі прыроды. Усялякія гутаркі пра «гендэр» у такіх месцах напаміналі пусты перазвон. Ахінала іх аўра вітальнасці і вясновай радасці, якая скрывала ў сабе абяцанне чагосьці гарачага і набрынялага. Рэй задавалі хлопцы, якія на памяць ведалі свае адвечныя ролі. Запамятаўся малы, які на момант забег да кампаніі толькі па тое, каб пацалавацца з кожнай па чарзе дзеўкай. А яны, хоць старэйшыя за яго на пяць гадоў, ахвотна з ім цалаваліся, а пасля прыгожа яму ўслед усміхаліся...

* * *

Падобна як немагчыма было адарваць вачэй ад маладзёвай тусоўкі, так немагчыма было спыніцца на прыморскай Lungomare Araldo di Crollalanza, якая вяла на залаты пляж з загараючымі турыстамі. Італьянцы пакуль чакалі летняга надвор'я. Хоць у час нашай пабыўкі тэмпература сягала 26 градусаў, мясцовыя хадзілі яшчэ ў куртках і закрытых ботах. Інакш апрануты былі госці з поўначы Еўропы. У ясных шортах і футболках, з расчырванелымі тварамі і яшчэ больш выбеленымі валасамі ляніва перамяшчаліся паміж пляжам, гатэлямі і прашклёнымі барамі. Хоць Бары знаходзіцца блізка Афрыкі, у гарадскім краявідзе рэдка сустракаліся негры і індусы. Гэта пацвярджаюць афіцыйныя статыстыкі, паводле якіх 96 адсоткаў жыхароў горада складаюць італьянцы, 2% албанцы, 1% эмігранты з Афрыкі, 0,5% грэкі. Апошняе 0,5% належала іншым нацыянальнасцям. Сапраўды, амаль ва ўсіх установах і магазінах, барах і музеях, пансіянатах ды ў гарадской камунікацыі працавалі адны італьянцы. Частка з іх не ведала англійскай мовы і зусім не адчувала па гэтай прычыне дыскамфорту. Не памятаю, каб хто з-за гэтага недахопу папрасіў прабачэння. І тая моладзь, што тусавалася на праспекце, не была выключэннем. Няведанне англійскай мовы не прыводзіла іх у заклапочанасць...







На канцы праспекта, дакладна ля залатога пляжа, мы наступілі на аблезлы хвост ментальнага пірата. Нейкі асобень, прыхаваны за марскія валуны, тайком здымаў на камеру аголеных дзетак. Ніхто не глядзеў у яго бок. Усю ўвагу загараючых засмактала падазроная парачка, якая зладзіла тэмпераментную сварку.

* * *

На іншым прэстыжным праспекце, Corso Vittorio Emanuaele II, устанаўлівалі сцэну ў выглядзе алтара, на 9 мая. Яе прыазадбляў бел-чырвона-белы дыван. Навокал распасціраліся карункавыя інсталяцыі ў духу навагодніх дэкораў. Тут жа знаходзіўся чацвёрты па памерах тэатр у Італіі, пабудаваны на зломе XIX і XX стагоддзяў на кошт суднабудаўнікоў. У ім выступалі такія славы як Лучано Паварoцці, Франк Сінатра, Лайза Мінеллі ці Фрэдзі Мерк'юры...

Тут жа, на суседняй вулачцы, знаходзіўся і наш пансіянат.

Хоць не было куды спяшацца, мы пераходзілі праз вуліцу на чырвоным святле. У Італіі дазволена ісці на чырвоным святле, вядома, на сваю адказнасць. І часта складалася ўражанне, што шафёры чакалі свайго шансу, каб прабіцца набітай вуліцай, якую безупынна, на зялёным і чырвоным святле, перасякалі пешаходы. Між патокам машын (амаль усе італьянскія маркі) вывіваліся ездакі на скутарах, лоўка цаляючы ў вольныя шчыліны. У апошняй акрабатыцы жыва вылучаліся жанчыны і нават бабулькі. Яны везлі яшчэ на заднім сядзёлку нейкіх пасажыраў або пакеты з прадуктамі. Дзе-нідзе адрэзкі тых жа набітых вулачак былі загароджаны. Усярэдзіне рамантавалі асфальт або малявалі палоскі і знакі. Хоць работа кіпела ў руках, але не прытупляла мужчынскай чуйнасці. Калі побач праходзіла нейкая дзеўка, яны спынялі работу і голасна выказвалі захапленне:

— Bella!

Іх адбойныя малаткі далей грукаталі. Словам, нідзе не было ні месца, ні нагоды, каб папрактыкаваць аскетызм.

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

## Збірайма зёлкі вясной

Яніна Зубрыцкая шмат гадоў вядзе пункт скупкі лячэбных зёлак у Баб’яй Гары Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Зараз пачаўся зёлкавы сезон. Яна купляе для гайнаўскай суполкі з абмежаванай адказнасцю „Руно” перш за ўсё сушанае лісце бярозы, вярбы, суніцы, брушніцы, крапівы, трыпутніка, падбелу і адуванчыка, карэнне адуванчыка, лопуху, крапівы, конскага шчавуху, пяцёрніка і жывакоста — ды зелле крапівы, парыла, адуванчыка і сніткі.

І так, за кілаграм сушанага лісця марэны плацяць 25 зл., брушніцы і трыпутніка — 12 злотых, крапівы — 8,50 зл., падбелу і суніцы — 10 зл., адуванчыка — 7 зл., бярозы і вярбы — 4 зл. ды за цвет парыла — 10 зл., а за карэнне парыла — 15 зл., пяцёрніка — 13 зл., лопуху — 12,60 зл., конскага шчавуху — 7 зл. і жывакосту — 6 зл. ды за кару дуба — 2,50 зл. Сёлетнія цэны на зелле парыла ўсяго 3,50 зл., крапівы — 2,50 зл. і сніткі — 5 зл. ды за пупышкі сасны — 12 зл.

Зараз на нашым рынку даступныя розныя зёлкавыя лякарствы, касметыкі, сіропы ды прыправы для страў.

## У Беластоку пабудуюць

Сёлета ў Беластоку будуць будаваць новыя маставыя на кароткіх пясчаных вуліцах на жыллёвых пасёлках Сонечны Сток, Выгода, Дайліды-Гурныя, Багноўка, Бацечкі і Беласточак. Неўзабаве пачнецца пабудова найперш вуліц Вігерскай і Калёнія Дайліды, а пасля вуліц Шафрановай (Krokusowej), Ранішняй (Porannej) і Стакроткі на пасёлку Дайліды. На іх пакладуць асфальтавае палатно, пракладуць тратуары і пабудуюць новае вулічнае электраасвятленне. Тут будуць таксама рамантаваць вуліцы Цытрусавую ды перабудуюць вуліцы Ліліёвую і Сямейную.

Улады горада намераны перабудаваць яшчэ іншыя вуліцы, між іншым, Сельскую, Мятавую, Фруктавую і Крыштальную,

У гэтым годзе на жыллёвых пасёлках у Беластоку пабудуюць новыя стаянкі для аўтамабіляў на 200 месцаў, між іншым, пры вуліцах Ляшчынавай, Рабінавай, Гаёвай, Мікалайчыка, 42 Палка пяхоты, Заходняй і Студзеннай. На Новым Месце, Бацечках, Выгодзе і Высокім Стачку пабудуюць дзевяць новых стаянак для прыватных легкавых аўтамабіляў. Усё з думкай пра выгаду жыхароў Беластока. **(яц)**

## Пераможны „Калеяж”

Чаромхаўская футбольная каманда „Калеяж” („Чыгуначнік”) здабывае ганаровае званне лідара ў групе А ды змагаецца за павышэнне ў Акруговую лігу. Дагэтуль распараджаецца 7 пунктамі. Другое месца займае „Тур II” Бельск-Падляшскі — 5 пкт. У сезоне засталіся для розыгрышу тры матчы: з „Турам II” на спартыўнай пляцоўцы ў Пілíках, чаргова ў Чаромсе з камандай „Ожэл” Кляшчэлі і апошні з „Боцянам” у Боцьках.

3 траўня футбольная каманда „Калеяж” гасцявала футбольную каманду Вышэйшай духоўнай семінарыі з Драгічына з духоўным апекуном кс. Дар’юшам Кухаркам на чале. Сяброўскі матч пры памяркоўнай публіцы (каманды гаспадароў) праходзіў на спартыўнай пляцоўцы „Калеяжа” пры паравозным дэпо. Розыгрыш закончыўся вынікам 5:3 у карысць гаспадароў. Паколькі гэта была сяброўская сустрэча, дык сувенірныя пераходныя кубкі і медалі (залатыя ды сярэбраныя) атрымалі абедзве каманды — як гаспадароў, так і гасцей. Сувенірныя прызы ўстанавіў пробашч Чаромхаўскай парафіі кс. Кшыштаф Дамарачэнька.

13 траўня на спартыўнай пляцоўцы „Калеяжа” ў Чаромсе адбыўся матч каманд „Калеяж” — „Цехановец” з вынікам 5:0 у карысць гаспадароў. Балы для „Калеяжа” заваявалі Анджэй Калішэвіч — 2, затым па адным Матэвуш Самасюк, Лукаш Барысюк і Каміль Чэкуць.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Вярнуць прададзеную бацькаўшчыну



(працяг з Нівы № 20)

**Да каго ісці?**

Заяву ў бюро заступніка правоў грамадзян РП дзеля абследавання справы датычнай магчымасці **вяртання нерухомасцей экспрапрыяваных** на нерэалізаваную грамадскую мэту (пабудова вадасховішча Семяноўка і каналу Нарва — Супрасль) ды распачацце адпаведных дзеянняў, маючых на мэце захоўванне органамі публічнай адміністрацыі закона датычнага спраў у гэтым абсягу, каб пазбегчы парушэнняў канстытуцыйных правоў, прыслугоўваючых кожнаму грамадзяніну **падпісалі жыхары** былой вёскі Лука Нараўчанскай гміны, якія цяпер жывуць у іншых мясцовасцях — Уладзіслаў Бірыцкі (Аседле Бандары Міхалоўскай гміны), Юлія Садоўская (Грабаўка Супрасльскай гміны), Галіна Павільч з Юшкавага Груда Міхалоўскай гміны, Яўгенія Пулкосьнік і Зофія Смольская з Беластока ды Валянціна Харкевіч з Новай Лукі Нараўчанскай гміны. Да ліста былі пададзеныя між іншым копіі дакументаў датычных перадачы грунтоў з-пад правоў Ваяводскай управы меліярацыі і водных установак у ваколіцах вадасховішча (напрыклад у Тарнопалі, Слабодцы, Луцэ) гмінным уладам, з подпісамі ўласнікаў маленькіх участачкаў, разам 14,74 га, 3,97 га, 33,67 га, 50,795 га, абвесткі войта Нараўчанскай гміны аб справе продажу «нерухомасцей, якія з’яўляюцца ўласнасцю Гміны Нараўка», шляхам публічнага вуснага неабмежаванага продажу, з выкліковай цаной ад 75 800 злотых да 90 000 злотых. Адзначалася прытым, што да гэтых грунтоў ніхто не мае прэтэнзіі і ўсе дакументы адносна сумленнасці продажу ў поўным юрыдычным парадку. У адносінах да купцоў, якія ўпэўнена ўплачвалі заклад (вадыюм) і чакалі таргоў, каб атрымаўшы зямлю будаваць тое, што ім гарантавалася — на тэрыторыі прызначанай да «забудовы гатэльнай» і пансіянатаў, хаця ў дакументах перадачы адзначалася, што гэтыя землі прызначаныя для сельскай гаспадаркі. Здаралася, што аўкцыён канчаўся «адмоўна», паколькі не прыйшлі на таргі асобы, якія ўплацілі былі заклад. А ці ў парадку было ўсё гэта да былых уласнікаў і іх спадчыннікаў? У 2017 г., пад уплывам пісьмовых засцярог датычных продажу ўчасткаў 921, 922, 930, рашылі выключыць з таргоў нерухомасці 2, 5 і 6, паверхняй 3 345 кв. м., 3 354 кв. м. і 3 242 кв. метраў. Але бывала так, што, так як Юлія Садоўская, у адказ на яе запыт наконт продажу яе лучанскай уласнасці, пазначанай у перапісе грунтоў нумарамі 939.1, 939.2 (перад падзелам 939), прысылалі ёй копію рашэння беластоцкага ваяводы ад 30 верасня 1991 г. і інфармацыю, што той участак 939 ужо прададзены шляхам вуснага неабмежаванага аўкцыёну на падставе аб’явы № 5А 2007 г. войта Нараўчанскай гміны ўжо 10.07.2007 г., а правы да нерухомасці, у склад якой уваходзіў участак 939, перададзены ўжо купцу натарыяльным актам. Значыць, канцы ў ваду?..

Амбудсмен патрабаваў ад улад Нараўчанскай гміны тлумачэнняў па гэтым пытанні, паінфармавання пра справы, якія вядуцца ў судах ды дзеянні, якія задаволяць слушна скардзіўшыхся і прадухіляць такія здарэнні ў будучыні.

Даў таксама спадарству Яўгеніі Пулкосьнік і Уладзіславу Бірыцкаму міністр інфраструктуры і будаўніцтва адказ на ліст ад 10 ліпеня 2017 г. Пацвердзіў ён слушнасць заўваг скардзячыхся наконт выкарыстання грунтоў на мэту, на якую былі яны экспрапрыяваны і якая не была рэалізаванай. Згодна з артыкулам 136 уст. 3 закона ад 21 жніўня 1997 г. аб гаспадарцы нерухомасцямі (Дз У. з 2016 г., паз. 2147) папярэдні ўласнік або яго спадчыннік могуць патрабаваць вяртання экспрапрыяванай нерухомасці або яе часткі, калі, згодна да правіл 137 артыкула, стала яна лішняй для мэты вызначанай у рашэнні пры экспрапрыяцыі. З заявай за вяртанне нерухомасці або яе часткі трэба звярнуцца **да старосты**, які выконвае заданне ад урадавай адміністрацыі, які паведамляе адпаведны орган. Умовай вяртання нерухомасці з’яўляецца **вяртанне** папярэднім уласнікам або яго спадчыннікам **кампенсацыі** (адшкадавання) або нерухомасці заменнай, згодна з артыкулам 140. Сутнасцю гэтых дзеянняў, якіх прадметам з’яўляецца вяртанне экспрапрыяванай нерухомасці, з’яўляецца адваротнасць вынікаў экспрапрыяцыі нерухомасці, у такіх выпадках, у якіх не дайшло да рэалізацыі публічнай мэты, на якую тая нерухомасць была набытая. Патрабаванне такой нерухомасці, інфармуе міністр, выконвае падвойную ролю: рэстытуцыйную — таму што абараняе інтарэс асобы, якой нерухомасць была перанятая на публічныя мэты і дае гэтай асобе магчымасць вяртання страчанага права на рэч, ды прэвентыўную, паколькі накладвае на адпаведныя органы **абавязак развагі** над апраўданасцю набыцця такой нерухомасці ды абавязак рэалізацыі публічнай мэты ў адпаведным часе. Заканадаўца выходзіць насустрач канстытуцыйнаму прынцыпу дапушчальнасці экспрапрыяцыі толькі на публічныя мэты і толькі са слушнай, адпаведнай кампенсацыяй (арт. 21 уст. 2 Канстытуцыі РП), ствараючы механізм, даючы магчымасць з поспехам старацца за вяртанне папярэдняга стану ў такіх сітуацыях, у якіх не наступіла рэалізацыя публічнай мэты. У справах за вяртанне экспрапрыяваных нерухомасцей ролю вядучага органа заканадаўца даручыў **старосту**. Гэта орган адпаведны для таго, незалежна ад таго, чыёй уласнасцю з’яўляецца нерухомасць, якой датычыць патрабаванне вяртання (Дзяржаўнай казны, гміны, павета ці ваяводства). І з сілай гэтай кампетэнцыйнай нормы староста мае права ўладна рассудзіць індывідуальную справу і даць сваё адміністрацыйнае рашэнне ў першай інстанцыі. У справе, якую прасілі рассудзіць былыя жыхары Лукі, адпаведным органам для вырашэння справы вяртання маёмасці з’яўляецца **староста Гайнаўскага павета**. Ён у рамках справы ацэніць, ці на экспрапрыяванай нерухомасці была зрэалізаваная мэта экспрапрыяцыі. Таму ў гэты орган трэба накіроўваць усе запыты, звязаныя з вяртаннем экспрапрыяваных грунтоў былым уласнікам або іх спадчыннікам і сам зварот за вяртанне нерухомасці. Адначасна трэба даказаць, ці атрыманне папярэднім уласнікам або яго спадчыннікам **паведамлення**, аб якім ёсць гаворка ў 136 арт. уст. 2 закона аб гаспадарцы нерухомасцямі не з’яўляецца **абавязковым** для таго, каб выступіць з заявай за вяртанне грунтоў. Міністр інфраструктуры і будаўніцтва адзначае таксама, што не вядзе ён назірання над органамі гміннага самакіравання — радай гміны і яе войтам. І не мае права на фармулёўкі для гэтых органаў загадаў, распараджэнняў і інструкцый адносна спосабу афармлення спраў. Прытым падказвае, што магчымае таксама парушэнне экспрапрыяцыйных рашэнняў у экстраардынарным рэжыме (nadzwyczajnym trybie), прадбачаным у арт. 156 закона ад 14 чэрвеня 1960 года, у Адміністрацыйна-працэсуальным кодэксе (Дз. У. з 2017 г, паз. 1257) праз сцвярджэнне несапраўднасці рашэнняў, на падстве якіх наступіла экспрапрыяцыя. Юрыдычны інтарэс на грунце адміністрацыйнай працэдуры прыслугоўвае асабліва былым уласнікам экспрапрыяваных грунтоў або іх юрыдычным спадчыннікам. У сувязі з гэтым, калі ў ацэнцы асобы якая мае юрыдычны інтарэс, экспрапрыяцыйнае рашэнне кіраўніка гміны мае хібы пералічаныя ў 150 арт. АПК, тая асоба павінна звярнуцца да Падляшскага ваяводы з адпаведнай заявай.

**Міра ЛУКША**

# Завод, які мае адмяніць жыццё жыхароў гміны Новы Двор. Ці на лепшае?

**Гміна Новы Двор — самая бедная ў Сакольскім павеце, бачыць шанс у заводзе для спальвання медыцынскіх адкідаў. На думку войта, гэта дапаможа зменшыць беспрацоўе і палепшыць фінансавую сітуацыю гміны. Яе жыхары супрацьстаўляюцца рашэнню войта — баяцца за тутэйшую некранутую прыроду. Аднак тыя аргументы лічацца выдумкай «навалачы», якая не разумее праблем мясцовых людзей.**



Войт Андрэй Гуменны



Марыя Бостэльс і Эльвіра Шума з Таварыства сяброў Сідры

### ПРАЦА, ЭНЕРГІЯ І ГРОШЫ

Завод хоча пабудаваць адзін з беластоцкіх прадпрымальнікаў. Згодна з планамі, завод будзе штогод перапрацоўваць 50 тыс. тон сцёкавых вод з камунальных ачышчальняў і спальваць каля 24 000 тон небяспечных адходаў, у тым ліку медыцынскіх і ветэрынарных. Завод меў бы паўстаць непадалёк Новага Двара, у бок Хварасцян. Інвестар ужо атрымаў згоду Рэгіянальнай дырэкцыі аховы прыроды.

— Наша гміна не мае грошай на інвестыцыі, — кажа войт гміны Андрэй Гуменны. — Жыхары гміны часта не могуць утрымацца са сваёй зямлі. Прыходзяць да мяне, пытаюцца ці няма нейкай працы. Завод будзе даваць месцы працы. Будзе магло працаваць у ім некалькі дзясяткаў чалавек. Дадаткова гміна будзе даставаць грошы ад інвестара. На маю думку, гэта для нас вялікі шанс.

Прадпрымальнік Лешак Менталь упэўнены, што планаваная інвестыцыя бяспечная. Ён таксама падкрэслівае, што працу на заводзе атрымае ад 30 да 50 чалавек.

— Жыхары змогуць атрымаць выгаду ад інвестыцый такім чынам, што будуць маглі грэць ваду за сімвалічную залатоўку, — падкрэсліваў на сустрэчы з жыхарамі інвестар Лешак Менталь. — Тое ж самае тычыцца ацяплення дамоў. Жыхары многа скарыстаюць.

### НЕ ЗАТАПТАНАЕ ТУРЫСТАМІ МЕСЦА

Некранутая чалавекам прырода ў даліне ракі Бобры, унікальныя балоты — усё гэта Бабранскі нацыянальны парк, падобнага да якога няма не толькі ў Еўропе, але і ў свеце. Унікальны геаграфічны і гісторыка-культурны рэгіён на поўначы Падляшша прыцягвае турыстаў і навукоўцаў. На вялізнай плошчы ў спрадвечным выглядзе захаваліся прыродныя сістэмы з багатым раслінным і жывёльным светам — балоты, шырокія поймы, лясы. Менавіта тут, у гміне Новы Двор, свой пачатак бярэ рака Бобра.

— Прырода Новага Двара захапляе, аднак яна яшчэ дакладна не даследаваная, — кажа Эльвіра Шума з Інстытута біялогіі млекакормячых Польскай акадэміі навук. — Я займаюся марфалогіяй ракі Бобры. Тут, ля вытокаў той ракі, ніхто яшчэ не правёў падрабязных даследаванняў. А менавіта гэтая тэрыторыя, калі гаварыць пра раку Бобру, з'яўляецца самай цікавай.

Эльвіра Шума сама нарадзілася ў Белавежы, але ўжо больш за дзесяць гадоў жыве ў гміне Новы Двор.

— Мяне найбольш прыцягвае дзікасць гэтага месца, — кажа Эльвіра Шума. — Я лічу, што менавіта прырода з'яўляецца найбольшым яго козырам. Вытокі Бобры для мяне, навукоўца, вельмі займальная тэма.

Паўночна-ўсходняе Падляшша месцам для жыцця выбрала таксама Марыя Бостэльс з мужам. Калі вырашылі выехаць з Галандыі, бацькаўшчыны мужа Марыі, ведалі, што будуць жыць на Падляшшы.

— Тут вельмі спакойна і прыгожа, — кажа Марыя Бостэльс. — Мы хутка вырашылі, што менавіта Сідэрка стане нашым месцам для жыцця. Калі мы сюды прыехалі, я не магла паверыць, што той рэгіён недаацэнены. Размаўляючы з мужам, не магла зразумець чаму! У Галандыі такія месцы былі б турыстычнымі феноменамі. Але муж цешыцца, што яно яшчэ для многіх не адкрытае, не затаптанае турыстамі.

Эльвіра Шума і Марыя Бостэльс разам дзейнічаюць у Таварыстве сяброў Сідры. Прымаюць удзел ва ўсіх сустрэчах у гміне, якія тычацца планаванага завода.

— Мы не можам дапусціць, каб завод паўстаў, — кажа Марыя Бостэльс. — Войт закідае нам, што не маем права выказвацца ад імя ўсіх жыхароў таму, што мы нетутэйшыя і не ведаем праблем жыхароў гміны. Ён памыляецца. Гэта маё месца, за якое буду змагацца.

### ЗАВОД

Гміна Новы Двор мяжуе з Беларуссю. Таварыства сяброў Сідры ўжо паведаміла беларускі бок пра планы пабудовы прадпрыемства на мяжы з Беларуссю, бо яно таксама будзе небяспечнае і для жыхароў ды прыроды краіны-суседкі.

— Лічым, што беларускі бок таксама возьме голас у гэтай справе, — кажа Эльвіра Шума. — Завод будзе таксама небяспечны для прыроды і людзей па другім баку мяжы.

На дадзены момант войт падпісаў згоду на пабудову завода. На інвестыцыю ў гміне Новы Двор згоду далі Рэгіянальная дырэкцыя аховы прыроды ды Санэпідэмстанцыя.

— Мы робім усё згодна з законамі, — тлумачыць справу войт Андрэй Гуменны. — Пры кожнай большай інвестыцыі знойдуцца людзі, якія не пагаджаюцца з яе рэалізацыяй. Мяне гэта не здзіўляе. Паколькі ўсё робіцца згодна з законамі, няма чым перайматца. Я ведаю, што ў гміне большасць жыхароў не мае нічога супраць планаў пабудовы завода.

Таварыства сяброў Сідры баіцца дрэнных наступстваў інвестыцыі, такіх як смурод ці вялікая колькасць грузавікоў, якія будуць вазіць медыцынскія адкіды.

— Людзі лічаць сябе падманутымі. Войт кажа, што ён не зрабіў нічога дрэннага. У рэшце рэшт, кожны ведае інвестара, — кажа Марыя Бостэльс. — Менавіта спадар Менталь быў замешаны ў іншыя няўдалыя інвестыцыі ў нашым ваяводстве. Калі завод паўстане ў нашай гміне, нядоўга тут можа быць пустыня.

На апошняй сустрэчы ў гміне Новы Двор, якая прайшла 15 траўня, ізноў не ўдалося выпрацаваць кампрамісу, які спыніў бы амаль трохгадовы канфлікт паміж прыхільнікамі і праціўнікамі пабудовы завода. На сустрэчу з'явіўся таксама стараста Сакольскага павета Пятро Рэська, які выказаўся супраць інвестыцыі.

— Не магу зараз гаварыць, якое будзе маё рашэнне, — сказаў войт Андрэй Гуменны. — Аднак не бачу сэнсоўных аргументаў, якія прамаўлялі б супраць пабудовы завода.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

## Кляшчы нападаюць

Памяркоўная зіма і веснавое цёплае надвор'е паспрыялі распаўсюджванню кляшчоў. Зімуюць яны ў подсцілцы, прабуджаюцца вясною. Найбольшую актыўнасць праяўляюць ад траўня па лістапад. З кляшчамі найчасцей можна сутыкнуцца ў лесе, на пашы, сенажаці ці над сажалкай, а нават у агародчыку. Калі вернемся з ляснога вандроўкі і прыкмецім на целе чырвоныя плямы ды пачуем боль галавы, дык неадкладна трэба пайсці да лекара. Гэта могуць быць сімптомы вірусная інфекцыі, якія выклікаюць запаленне мозгу або барэліёз. Клешч найчасцей кусае ў мяккае месца, тонкую скуру. Укручваецца ў згібы суставаў (пад каленам ці локцем), за вушамі. Кусае асцярожна, так што не адчуваем болю. Прыкмецім адно тады, калі дасягне памеру разынкі. Часам такі ўкус прыкмецім намнога пазней, калі месца пачне балець і дранцвець. Сімптомы барэліёзу падобныя да грыпу (гарачка, моташнасць, нязгінальнасць шыі, парушэнне разумення, боль суставаў, агульная стомленасць). Варта памятаць, што хоць сімптомы хваробы знікнуць і боль адступіць, дык варта пайсці да лекара і папрасіць аб параду. Магчыма, што на антыбіётыках закончыцца. Але трэба мець свядомасць, што не лечаны ўкус кляшча пасля гадоў можа закончыцца няўхільнымі зменамі ў нервовай ці касцёва-цягліцавай сістэме. Перад паходкай у лес за грыбамі варта паклапаціцца аб належнаю вопратку. На галаву найлепш надзець капялюш з палямі (круглай плошчай). Нагавіцы павінны быць з доўгімі калошамі, куртка з доўгімі рукавамі. Цела змазаць спецыяльным прэпаратам. Пасля вяртання дамоў неабходна агледзець сваё цела. Здараецца, што клешч, пакуль укусіць, доўга лазіць па целе. Тады яго проста скідаем. Калі ўжо ўкруціцца ў цела, тады спрабуйце яго выдаліць пры дапамозе пінцэта. Выкручваем у адваротны бок да руху стрэлак гадзінніка. Варта аб тым памятаць.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Дэмаграфія Кляшчэлеўскай гміны

Кляшчэлеўская гміна Гайнаўскага павета мяжуе з пяццю гмінамі: Дубіцкай, Чаромхаўскай, Мілейчыцкай, Арлянскай і Боцькаўскай. Займае плошчу ў 14 262 гектары і складае 9% тэрыторыі Гайнаўскага павета.

У Кляшчэлеўскай гміне пражывае 2588 чалавек у шаснаццаці населеных пунктах. Тры гады таму было 2966 асоб. Шчыльнасць насельніцтва 19 асоб на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 103 жанчыны.

Найбольшыя мясцовасці гэта горад Кляшчэлі — ён налічвае 1311 чалавек ды вёскі Дабрывада — 231, Дашы — 217, Палічна — 147, Сакі — 126, Сухавольцы — 120 і Тапаркі — 103. Сярэднія і малыя вёскі налічваюць Пагрэбы — 62, Залешаны — 51, Курашава — 49, Грузка — 46, Рэпчыцы — 40, Жукі — 38, Белая Страж — 30 і Пятроўшчына — 27 чалавек. У Косьнай жывуць толькі тры чалавекі.

У параўнанні да колькасці жыхароў у 2016 годзе цяпер паменшала іх у Кляшчэлях, Дабрывадзе, Палічнай, Сухавольцах, Пагрэбах, Залешанах, Белай Стражы і ў Грузцы ды пабольшала ў Саках. У вёсках штораз больш пенсіянераў. Да залатога вяселля сёлета рыхтуецца сем пар. У мінулым годзе было шэсць такіх пар і атрымалі яны медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё". Зараз у горадзе Кляшчэлі і ў вёсках стагадовых жыхароў няма. Найстарэйшы мае 99 гадоў. Колькасць жыхароў у гміне з году ў год змяншаецца.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Сем ружаў
## — сем казачных гісторый




**«Сем ружаў»** Надзеі Ясмінскай — кніжка-лаўрэат Прэміі імя Цёткі (Алаізы Пашкевіч) за 2017 год.

Гэта сем чароўных гісторый, якія распавядаюць пра каханне і сяброўства, адвагу, незвычайныя прыгоды і сапраўдныя цуды. Маляўнічы зборнік завабіць юных чытачоў у свет класічнай казкі, дзе дабро перамагае, а мара ўвасабляецца ў рэальнасць.

Ужо па адных загалоўках можна размаляваць чароўную гісторыю — столькі тут фарбаў і казачных сюжэтаў і персанажаў:

— Пунсовая Ружа і сад вядзьмаркі
— Жоўтая Ружа і лясная чарадзейка
— Белая Ружа і чорны рыцар
— Кармінавая Ружа і кароль эльфаў
— Блакітная Ружа і скарб волаткі
— Залатая Ружа і чароўны калодзеж
— Чорная ружа і вандроўны музыка

А ўсё пачынаецца так:

*Даўно-даўно, стагоддзі таму, існавала адно запаветнае месца — Густы лес. Ён быў такім велізарным, што ахопліваў межы сямі краін. У гэтым лесе жылі чароўныя істоты, якія рэдка траплялiся на вочы чалавеку: чарадзеі, эльфы, тролі, лясныя феі, грыбныя гномы, лесавікі. Часам яны жылі мірна, часам сварыліся. А раз у сто гадоў жыхары Густога лесу збіраліся ўсе разам на таямнічае свята і рабілі падарункі не адно аднаму,... а людзям. Менавіта людзям, таму што ў іх жыцці так мала чараўніцтва. Праўда, людзі часцей за ўсё не ведалі пра тыя падарункі. Яны лічылі, што ім проста пашанцавала.*

*І вось у адно такое свята насельнікі гушчару распалілі вогнішча да неба, селі вакол яго і спыталі старую, як сам лес, чарадзейку:*

*— Што мы падорым людзям гэтым разам?*

*Старая чарадзейка задуменна паглядзела на агонь. Толькі яна магла разглядзець у ім схаваныя знакі:*

*— Я бачу ружу, — нарэшце сказала яна, — і не адну, а цэлых сем. Сем цудоўных ружаў! Мы падарым іх маленькім дзяўчаткам. Хтосьці з іх атрымае кветку адразу, хтосьці знойдзе яе, толькі калі вырасце.*

*Але жыццё кожнай зменіцца ад гэтай знаходкі.*

***Пунсовую ружу** знойдзе самая цікаўная. З-за гэтай цікаўнасці ёй давядзецца шмат чаго вынесці, але шчасце не абміне яе.*

***Жоўтую ружу** знойдзе самая кемлівая. Нават там, дзе ніколі не свеціць сонца, яна зможа адшукаць і выратаваць дарагога чалавека.*

***Белую ружу** знойдзе самая адданая. Дзеля сваёй сям'і яна выправіцца ў небяспечнае падарожжа. Але злыя чары адступяць перад ёй.*

***Кармінавую ружу** знойдзе самая добрая. І дабрыня вернецца ёй стакроць. Яна здабудзе дом і сяброў там, дзе менш за ўсё чакала.*

***Блакітную ружу** знойдзе самая сціплая. За ціхі нораў яна атрымае скарбы, пра якія толькі магла марыць.*

***Залатую ружу** знойдзе самая моцная духам. Яна захоча вызваліць аднаго чалавека, а вызваліць цэлае каралеўства.*

***Чорную ружу** знойдзе самая адважная. Яна не спалохаецца ворага і нават самой смерці....*

І тут пачынаецца бурлівая прыгода, якую чытаем на адным дыху і разам з героямі падарожнічаем і перажываем усе выпрабаванні лёсу і цуды. Таксама на кожным кроку даведаемся шмат новага пра сябе самога. Бо ўсе казачныя гісторыі, гэта мары, якія носіць у душы кожны з нас — малы і стары...

Кніжку аздабляюць малюнкі Кацярыны Дубовік. Яна выйшла з друку ў 2015 годзе ў выдавецтве «Галіяфы».

«Сем ружаў» Надзеі Ясмінскай можна выйграць у конкурсах «Зоркі».

**(гак)**



Вікторыя Госцік,
Саколе, КШ у Міхалове

### Радасць

Я вясёлая,
Я шчаслівая,
Еду на экскурсію.
Думаю, што будзе файна там.
Буду гуляць,
З сяброўкамі размаўляць.

## УВАГА КОНКУРС!
## № 21-18

Па зямлі я не хаджу
І на неба не гляджу,
Вочы маю — не міргаю,
Маю рот — не гавару,
Ёсць і хвост, але не звер я
І не птах, хоць ёсць і пер'е?
Хаты з роду я не будую,
Ды ні трохі не бядую.
Р...

(Ніл Гілевіч)

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 3 чэрвеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 17-2018: вясёлка.

Узнагароды: кніжку Рыгора Барадуліна «Азбука» выйграла Оля Хіліманюк з Нарвы; кніжку Свэна Нурдквіста «Пэтсан сумуе» — Алеся Буткевіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока; кніжку Дар'і Вашкевіч «Бабаўняная дзяўчынка» — Ганна Дземянюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

# Рэха роднага слова




Ужо амаль паўстагоддзя адбываюцца конкурсы для дэкламатараў, вучняў якія вывучаюць родную мову ў школе. У апошнія гады прымаюць у іх удзел таксама таленавітыя і зухаватыя дашкольнікі. Дэкламуюць творы на роднай мове дзеці з Беласточчыны, Бельшчыны, Гайнаўшчыны, Сакольшчыны. Рыхтуюць іх да конкурсу, арганізаванага Таварыствам беларускай культуры ў Польшчы, настаўнікі школ, дзе вывучаецца беларуская мова, а таксама бацькі. Творы для дэкламацыі прапануюць настаўнікі, выбіраюць іх таксама самі дэкламатары. Сярод аўтараў твораў — вядомыя класікі, аўтары вядомыя з падручнікаў па беларускай мове і літаратуры, а таксама аўтары з пакалення дзядоў, бацькоў ці дзядзькоў дэкламатараў. Трапляюцца таксама аўтары з пакалення саміх дэкламатараў, напрыклад Юля Бяганская з Гайнаўскага белліцэя, якой твор дэкламавала сяброўка па школьнай парце. Журы ацэньвае таксама, апрача мастацкіх здольнасцей выступоўца, трапнасць падборкі твора — па ўзросце, амплуа, а таксама само маўленне дэкламатара. І тут бывае «загвоздка» — вельмі цікавае па-мастацкім выразе, часам нават выдатнае выступленне, вартае ўзнагароджання або вылучэння, псуе неахайнасць маўлення, няўмеласць ці неахвота адпаведнага, правільнага маўлення адмысловых і цудоўных беларускіх гукаў «л», «г», невядома якія нацыскі. Трэба навучыцца добра папрацаваць роцікам, языком, зубкамі — гэта падстава, каб правільна і прыгожа выказаць думкі і эмоцыі выражаныя ў творах, прапушчаныя праз тваё эмоцыі і талент, каб слухач пачуў, зразумеў, успрыняў і захапіўся! Тут заслуга таксама і настаўнікаў, калі іх вучні прыгожа і правільна дэкламуюць. Тут трэба пахваліць, апрача вучняў, настаўнікаў з Нараўкі, Чыжоў, школьна-прадшкольнага комплексу ў Белавежы, ПШ № 2 у Гайнаўцы, ПШ № 3 у Гайнаўцы, ПШ № 1 у Гайнаўцы, прадшколля № 3 у Гайнаўцы, прадшколля № 14 у Беластоку, НПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, НПШ у Залуках, Гімназіі ў Залуках, ПШ № 3 у Бельску. Выбар тэкстаў для дэкламацыі быў таксама адмысловы — ад Янкі Купалы Авяр'яна Дзеружынскага, Артура Вольскага, Алега Лойкі, Эдуарда Валасевіча, Ніла Гілевіча, Станіслава Шушкевіча, Міколы Маляўкі, Дануты Бічэль, Рыгора Барадуліна, Віктара Шведа, да маладзейшых аўтараў — Леаніда Пранчака Алеся Пісьмянкова, Віктара Шніпа, да зусім маладых — Валярыны Куставай, Андрэя Хадановіча. А вучні школы з Белавежы падрыхтавалі хвалюючы сюрпрыз для «Нівы», дэкламуючы творы незабыўных народных паэтаў Хведара Хлябіча і Міхася Красоўскага — Дзядзькі Кваса! Усе дэкламатары справіліся гожа, а асабліва Марыя Галёнка, Насця Франкоўская, Юля Садоўская, Сіман Асіпчук, Аляксандра Монах, Антаніна Карпюк, Павел Аніскевіч, Вікторыя Анішчук, Антось Сідаровіч, Ільля Пятроўскі, Марыя Бармута, Алівія Жэпка, Міхаліна Андрасюк, Анна Мароз, Ян Коршак, Вераніка Дунда, Зузя Франкоўская Ян Васільчык, Матэвуш Хіліманюк, Дар'я Заброцкая, Аліўка Порац, Марыя Валосік, Анжаліка Шпаковіч, Кацярына Байко, Клаўдзія Ніканчук, Павел Алексяюк, Зося Філіпюк, Гаўрыла Місяюк, Юльян Раманюк, Барташ Яканюк, Зося Карчэнка, Тамаш Харкевіч, Мартына Белавежац, Марк Кутузаў, Уладзь Кутузаў, Марыюш Краська, Наталля Янчук, Аксана Кулік, Дамініка Лепай, Аляксандра Раманчук, Ганна Сапёлка, Гося Паплаўская, Юля Лех, Крыстыян Майсак, Гаўрылка Якімюк, Аляксандра Гурба, Лукаш Хіліманюк, Оля Кузьма, Кандрат Косцін, Іван Карсунскі, Коля Абрамюк, Вікторыя Пякарская, Каліса Пятроўская, Наталля Савіцкая... Праўда, вядомыя ўсім імёны — не толькі з дэкламацыі?

**Міра ЛУКША**

(Байкі сярэднявечнай Арменії)

## Закаханы леў

Леў захапіўся красой адной дзяўчыны. Ён ускіпеў ад страсці, пахудзеў і не мог знайсці сабе месца. Рашыў сходзіць у сваты. Калі бацька дзяўчыны пабачыў будучага зяця, ён злякаўся, але не падаваў віду. І пайшоў на хітрыкі:

— Я рады парадніцца з табой, леў, але ёсць адна загвоздка.

— Вы пра што? — загарэўся леў. — Якая загвоздка, якая перашкода?

— Мая дачка вельмі цябе любіць, аднак яна напалохана тваімі кіпцюрамі і аграмаднымі ікламі...

— Тады што мне рабіць? — усхваляваўся леў. — Падкажыце, калі ласка, тата.

— Скінь, міленькі, гэтыя кіпцюры і клыкі, — ласкава параіў бацька, — тады будзеш жаданым жаніхом.

Леў, які патапіўся ў страсцях, згадзіўся. Вырваў свае кіпцюры і іклы да выправіўся да нявесты. А калі ён увайшоў у двор, яго адразу забілі, бо ён быў слабы і безабаронны.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Авяр'ян Дзеружынскі

## Васілёк

Стаіць,
Выглядаючы з жыта,
Як зорачка-знічка
Здалёк,
Што ўпала
Іскрынкай
З блакіту,
Палеткаў краса —
Васілёк.
Калі расцвітае
Цуд гэты,
На полі
Яшчэ гарачэй,
Буяе,
Квітнеецца лета
І фарбы прыроды —
Ярчэй.
Стаіць,
Паглядае з пагорка,
Як зорка
Аднекуль здалёк,
Часцінка
Любімай старонкі,
Часцінка зямлі —
Васілёк.

## Польска-беларуская крыжаванка № 21-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 17-2018:**

Сок, сасна, цела, пруток, лад, пік, яна, мыла, мак, ярд. Сум, пліта, рак, сум, свет, яма, лоўны, смак, Ала, агрэст.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Алівія Троц, Габрыся Лапінская, Магда Якубюк** з бельскай «тройкі», **Юлія Клімчук, Шыман Пятроўскі, Наталля Сталоўская** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Куба Аварчук** з Арэшкава, **Аляксандра Якімюк, Аляксандра Бакун** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Аліўка Жэпко** з Нарвы. Віншуем!



**Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы сёлета пачаў ужо дзясяты сезон беларускіх фэстаў з цыкла «І там жывуць людзі». На гэты год прадбачваецца пяць мерапрыемстваў, мэта якіх — прэзентацыя беларускай культуры ў сельскай мясцовасці. Падчас белфэстаў можна купіць беларускія кніжкі. На першым сёлетнім белфэсце з гэтага цыкла, наладжаным 5 мая ў Навасадах Гайнаўскім белмузеем у супрацоўніцтве з войтам Гайнаўскай гміны, перш за ўсё гучалі беларускія песні ў выкананні гуртоў «Ас» з Беластока, «Арт-Пронар» з Нарвы і салістаў.**



■ Гурт «Ас» з Беластока

# Беларускі фэст у Навасадах





На 61 ужо беларускі фэст з цыкла «І там жывуць людзі» прыбылі жыхары Навасадаў і вёсак Гайнаўскай гміны, а таксама гайнавяне, якім з горада ў Навасады недалёка. Публіку прыцягнулі вядомыя на Беласточчыне беларускія калектывы «Ас» і «Арт-Пронар». Іх канцэрт папярэдзілі выступленні салістаў. Займальна спявалі Марлена Бяглюк са Студыі песні ГДК, якая раней займалася ў «Знічцы», і вучаніца Гайнаўскага белліцэя Вераніка Пташынская. Адам Красько з Пасечнікаў-Вялікіях у праграме «Фермер шоў» стараўся сваімі выказваннямі і песнямі развесяліць публіку, якая перш за ўсё ведала яго з праграмы Польскага тэлебачання «Селянін шукае жонку».

— У Навасадах добрае месца на арганізаванне музычнага мерапрыемства. Прырода стаўляе прыгожы фон для мерапрыемства. Адрамантаваная святліца дае магчымасць схавацца ў выпадку дажджу, ці пакарыстацца туалетамі. Сёння аднак цёпла, стаіць прыгожае сонечнае надвор'е і таму варта адпачываць на свежым паветры. Хаця сярод публікі вялікую частку састаўляюць старэйшыя асобы, то мы рады, што прыйшлі маладыя сем'і з дзеткамі і моладзь, бо гэта будучыня нашых вёсак, у якіх зараз жыве штораз менш людзей, — сказала жанчына, якая прыйшла на фэст паслухаць беларускія песні.

Ужо ў пачатку фэсту пажарнікі з Новага Корніна сталі тлумачыць дзеткам, як з дапамогай пажарнай машыны тушаць пажары, а пасля арганізавалі ім міні-спаборніцтвы з дапамогай вяроўкі. Пажарнікі прэзентавалі таксама ровар, на якім вельмі складана навучыцца ездзіць, паколькі калі яго руль павярнуць направа, то пярэдняе кола ровара павернецца налева. Ніводнай асобе ў Навасадах не ўдалося пракатацца на гэтым ровары, усе здаваліся. Культурныя працаўнікі святліц Гайнаўскай гміны выконвалі дзеткам цацкі, з якімі тыя гулялі. Некаторыя дарослыя ўдзельнікі фэсту перад сцэнай сталі танцаваць пад гукі беларускіх песень.

— Фэсты з цыкла «І там жывуць людзі» арганізуем перш за ўсё ў сельскай мясцовасці, дзе беларускія музычныя мерапрыемствы даўно не ладзіліся. Часта войты пасля кансультацый з насельніцтвам прапануюць нам мясцовасці для арганізавання фэстаў, але бывае, што жыхары вёскі самі просяць наладзіць у іх беларускі фэст. Самае важнае, каб задаволіць удзельнікаў белфэста, якія часта даўно ўжывую не бачылі музычных калектываў і не слухалі нашых песень, — заявіў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

Вядучай фэсту была Марыёля Герман-Петручук. Раней вяла яна беларускія фэсты, арганізаваныя Гайнаўскім белмузеем і гміннымі ўстановамі, а ў Навасадах выступіла таксама як вакалістка калектыву «Арт-Пронар».

— Зараз заказваю выступы, а пазней буду спяваць у гурце «Арт-Пронар». Аднак паволі спыняю выступы ў гэтым калектыве з-за сямейных і прафесійных абавязкаў. Маё спяванне ў гурце «Арт-Пронар» успамінаю добра. Выезды на фэсты і выкананне на сцэне беларускіх песень патрабавала многа актыўнасці, але давала радасць і было адпачынкам ад штодзённага жыцця, — заявіла Марыёля Герман-Петручук.

— У Навасадах даўно не было беларускага фэсту і таму мы запрапанавалі наладзіць тут беларускае мерапрыемства з цыкла «І там жывуць людзі», якога з'яўляемся суарганізатарам. Сёння перад абедам мы арганізавалі іншае мерапрыемства ў Новабяразове, у якім прынялі ўдзел пажарнікі з нашай гміны. Гэтая сустрэча таксама закончылася мастацкай часткай у выкананні вучняў, калектываў «Жаваранкі» з Махнатага і «Лотас» з Дубін. Апошні калектыў сорак гадоў таму назад дзейнічаў у Дубінах, яшчэ да славутых «Дубіноў», і жыхары Новабяразова таксама яго памятаюць, — сказала войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч. — Заўтра мы ладзім сустрэчу на адкрытым паветры каля вёскі Пуціска, якую назвалі «На мяжы». Сустрэнуцца там жыхары суседніх вёсак Пуціска і Бельшчына, якіх палі раздзелены толькі мяжой.

Дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах Міраслава Маеўская-Іванюк пахваліла ідэю арганізавання беларускага фэсту ў Навасадах, дзе актыўнасць праяўляюць маладыя жанчыны гэтай вёскі і наваколля. У вёсках акружаючых Гайнаўку апошнім часам застаецца жыць штораз больш маладых людзей і гэта было відаць падчас мерапрыемства.

— З Навасадаў і суседніх вёсак недалёка ў Гайнаўку, дзе найчасцей працуюць нашы маладшыя жыхары. З-за чумы свіней нашы сяляне перасталі займацца свінагадоўляй. У нашых вёсках звялася таксама гадоўля кароў. Затое вяскоўцы абрабляюць яшчэ палі, гадуюць курэй, гусей на свае патрэбы. Бацькі перадалі мне крыху поля і мы з мужам пачалі яго абрабляць. Вырошчваем агародніну, пасеялі пшаніцу, пасадзілі бульбу. Рашыліся даваць пад бульбу і агародніну натуральнае ўгнаенне, але сказалі нам, што конскі гной лепшы, чым той ад кароў і таму ездзілі мы за ім у суседнюю вёску. Першы раз растрасала я віламі гной на полі і хутка навучылася гэта рабіць. Завяла курэй, каб былі свае яйкі. Для курэй пасеялі экалагічную пшаніцу. Хачу, каб былі таксама свой хлеб і саё мяса, перш за ўсё з думкай пра дзяцей. Зараз штораз больш людзей шукае здаровае харчаванне і нават старэйшыя жыхары вёсак сталі вырошчваць бульбу на свае патрэбы без мінеральнага ўгнаення. Я, здабыўшы вышэйшую адукацыю, рашылася паехаць за працай у Вялікабрытанію і нават думала, што можа застануся там на пастаяннае жыхарства. Аднак, прыехаўшы дамоў на адпачынак, пазнаёмілася з хлопцам, які пазней стаў маім мужам і засталася жыць на бацькаўшчыне. Адрамантавалі мы бабулін дом і цэлы час жывем у кантакце з прыродай, бо непадалёк ад нашага дома шуміць Белавежская пушча. Трох нашых сыноў гуляюць на свежым паветры. Жыве тут некалькі маладых сем'яў. Мы сябруем і супольна адпачываем, а на працу даязджаем у гарады. Напрыклад, мая сяброўка, якая працуе суддзёй, даязджае ў Беласток, — пачала распавядаць Анна Нікіцюк, жыхарка Звадзецкіх, якія спалучаны з Навасадамі. Займаецца яна адукацыяй у Гайнаўскім надлясніцтве.

— Мы рашыліся жыць у сваіх вёсках і рады гэтаму выбару. Я таксама жыву ў бабулінай хаце ў Пераходах, якую рамантую. Сябрую з Аняй і іншымі маладымі асобамі, якія засталіся тут жыць. Даязджаю на працу ў Гайнаўку і дапамагаю бацькам. Нам блізкая беларуская мова і таму мы прыйшлі на фэст паслухаць беларускіх песень, — гаварыла Кацярына з Пераходаў.

— У Навасадах і суседніх вёсачках жыве крыху моладзі, але найбольш у нас старэйшых асоб. Крыху дамоў у нас пустуе і нават ёсць ахвотныя купіць іх. Аднак уласнікі не хочуць прадаваць хат, а некаторыя з іх, выйшаўшы на пенсію, хочуць вярнуцца на пастаяннае жыхарства ў вёску. Даўно не было ў Навасадах беларускага фэсту і добра, што па гэтай прычыне арганізуецца сёння ў нас беларускае мерапрыемства, — дабавіла Анна Нікіцюк.

Калі на сцэну выйшаў калектыў «Арт-Пронар», колькасць моладзі на фэсце яшчэ пабольшала і стала яна падпяваць вядомыя песні з рэпертуару нарваўскага гурту.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

# Вершы

Дарыюша ЖУКОЎСКАГА



* * *

Скуль Вы прыехалі, святы Юрый,
На белым кані,
Высакароднай арабскай пароды,
У нашу Гарадоцкую царкву,
З Кападокіі ці з Ковентры?
У рэшце рэшт, Вы былі рымскім афіцэрам,
Трыбунам і графам,
Ведалі імператараў і ўладных людзей свету.
Вы маглі б выбраць кожны горад,
Значна большы і больш значны.
Што Вас накіравала ў наша старонне,
У малую мясцовасць на Падляшшы?
А зараз Вы стаіце з гонарам
У Велікодную ноч
На правым баку іканастаса,
Змагаецеся з цмокам
У імя любові,
Звіўшым сваё гняздо на крыніцы,
Якая забяспечвала ў ваду горад Сіленэ.
Цяпер кожны з нас моліцца за Вас,
І за любоў, якая плыве з гэтай крыніцы,
Для ўсіх тут прысутных,
**Ныне и присно и во веки веков.**

* * *

Мая дзіцячая карта,
Сасновыя сцены старой хаты,
Па Крывой вуліцы, нумар 8,
На якой я вырысоўваў падарожжы
дарослага жыцця,
Горы, раўніны, рэкі...
Далей, чым заедзеш на ровары,
Далей, чым Крушыняны,
Шукаю сёння ў горадзе,
Тае лопнутай кроплі жывіцы,
З патанулай мурашкай-асілкам,
Якая ўжо нікуды не пойдзе,
Хаця ўвесь час нясе тую самую вестку
Аб цэлым сусвеце,
Для ўсіх пакаленняў,
Жыхароў гэтага дома.

* * *

Я ўжо даўно не бачыў скрыпача на нашым даху,
(Я заўжды задаваўся пытаннем,
як ён туды ўзбіраўся).
Калісь размаўлялі мы часта.
Я падымаўся па лесвіцы на гарышча,
Праз акно бачыў больш,
Ён быў ужо там,
Распавядаў мне пра свае праблемы з дзецьмі,
Што сям'я — найвышэйшая каштоўнасць
і гэта яна стварае традыцыю,
Я распавядаў яму пра свае дзіцячыя праблемы.
Цяпер я хацеў спытаць яго,
Ці Цэйтла і Мотал дабраліся ў Варшаву,
Ці Хава і Федзька — у Кракаве,
Ці Шпрынца і Білка апынуліся ў Амерыцы?
Як адчувае сябе жонка Голда?
Ці доктар Леў Цукерман
прыпісаў ёй нешта на пазваночнік?
(Цукерман добры лекар!)
Ці аптэкар Шукляпэр меў гэтыя лекі?
Ці Эбштайн добра навучыў
дзяцей габрэйскай мове?
Ці Ёсэф Абраміцкі зрабіў прыгожыя
фатаграфіі для пашпарта?
А хто пашыў вам адзенне на дарогу
— Фідэль ці Гарбер?
А абутак Едваха ці не ціснуў?
А гадзіннік Файнзіберга працуе да сёння?
Ці памятаеце апошні спектакль «Мірэлэ Эфрос»
Дзе ігралі акцёры: Шасана, Шэмэн, Чыжыцкі,
Валінская, Раф і іншыя?
Як было на вяселлі Любы Янушкевіч
і Моталя Морайна?
Заўтра ўзбяруся на дах гэтага дома,
Сяду ля цёплага, пабеленага коміна,
І зайграю на скрыпцы ўсім вам:
«То світанак, то змрок,
То світанак, то змрок
І ўжо столькі зім і лет
Нешта нараджаецца і нешта мінае
Ды застанецца ад нас след».

* * *

Спадар Ежы,
Колькі ўсіх царкоўнаславянскіх літар
На сценах нашай Гарадоцкай царквы?
Айцец Уладзімір Дарашкевіч,
пэўна, разам з Вамі іх палічыў?
Хто цяпер іх пазбірае і складзе ў словы і сказы?
Хто растлумачыць нам свет?
Чаму Вы напісалі такі цяжкі лемантар?
Дзеці яшчэ ж не ўмеюць так хутка і добра чытаць,
Я лічу іх да сённяшняга дня,
Складваю з іх словы і спрабую іх зразумець,
Але гэтых Вашых літар не ўдаецца скласці ў цэлае,
Дзейнічаюць невытлумачальна.

* * *

Мае дзіцячыя вершы нізка каля зямлі,
Увесь том паэзіі расце на палях, на лугах, на дрэвах,
Часам яны ў замерзлай пойме Супраслі,
У марозны лютаўскі дзень,
Шчыпаюць у нос і ў рукі,
Часам бываюць крывыя і нахіленыя,
Як бег па муры вакол царквы,
Або сціскаюць у горле як нядзельнае кадзіла,
Распальванае з Маркам.
Самыя высокія былі на яблыні-папяроўцы,
У садзе побач з домам,
Мелі яны смак ранняга лета,
І няспелага яблыка,
Або кіслай белай парэчкі.
Часам яны балючыя, як разбітае калена,
Або як стрэмка загнаная ў палец.
Ім толькі па некалькі гадоў,
Яшчэ нічога не разумеюць,
З гэтак званага жыцця.
Не ведаюць таксама, што
Паэзія гэта частка прыгожага пісьменства,
Ахопліваючая вершаваныя творы ў адрозненне
ад прозы,
Штодзённага жыцця на вуліцы Крывой,
Якая нічога не тлумачыць,
Нічога не высвятляе.

Юрый БУЙНЮК

**КІБЕРВАЙНА**

На фейсбуку ідзе кібервайна
Аб тваё сэрца
Душу
Памяць
Руку
Ваюць мільёны машын
Вобразаў крывой душы
Люстра шэрых дзён
У акне віртуальнай праўды
Паляк заве беларуса кацапам
Украінец паляка ляхам
Рускі — пшэкам
Мільёны хейтараў
Брат брата б'е словам
Камуністы фашыстамі
Хаваюцца ў машыне
Спакуслівых вобразаў
Нястрымная рака хейту
Сеціве павуціны сусвету
Галоўны павук п'е кроў
Мільярды мух людзей
Захаду сонца свету
Змазваючы словы пшэкаў
З памяці машын кацапаў
Смяецца над намі Сямён
Цар кібервайны
Фейкавых сайтаў
У кантакце са светам
Заліваюць цябе слёзы маўчання душы і
Сам адключыся ад сеціва
Пакуль хтосьці не адключыць цябе
2018.05.09

* * *

Акіян маладых у гарадах
Свету новай эры
Залатога Веку
Там бурліць жыццё грэху
Забываем пра маміну сарочку
Бацькоўскія асцярогі
Гісторыю дзядоў
Бабуліны песні
Жывем як самаранка XXI веку
Топімся ў дрыгве грахоў
Не ведаю куды той свет ідзе...
2018.05.09

* * *

Хочацца смаку
Свойскага хлеба
Тоўстага сала
Кіслага агурка
Глытка здаровай самагонкі
З Белавежскай пушчы
Або гарадоцкага лесу

Хочацца спяваць
Падляшскія песні
Спевам крыкам
Голасам нашых бабуль
Душой нашых дзядоў
Хочацца на вёску дзяцінства

* * *

Памірае даўні добры свет
Фурманак ужо няма
Босыя ногі не ходзяць
Па дарозе да царквы
Праўды Богам святой
Жывёлы не сустрэнеш на вёсцы
Пад гук амерыканскай музыкі
Гарадскія на чужых панадворках
Смажаць каўбасу з супермаркета
2018.05.09

**ВЯСНА ДУШЫ**

Я адтуль
Дзе вяртаюцца буслы
У вясну маладосці
Чарэшні цвітуць
Белым-белым квеццем
Быццам дзяўчаты маладыя
Хлопцы язміны белыя
Ідуць пад вэлюм
Жыцця царквы вёскі святой
Вянчае іх бацюшка Рыгор
Як голуб сівы
Бібліяй мудры
Дзякуе
Што не прапалі
На крывой дарозе
Да касцёла празелітызму
2018.05.09
Беласток

1 ☞працяг

Копцкай царквы ў Еўропе ўганараваны копцкі хор святога Кірылы з Лондана, якога дырыжорам і кампазітарам выкананых на Фестывалі твораў з'яўляецца прафесар кардыялогіі Майкл Хінейн, які таксама вядзе хары ў Парыжы і Амстэрдаме.

У катэгорыі свецкіх аматарскіх хароў першае месца журы прысудзіла Акадэмічнаму хору Гарадскога аўтаномнага цэнтра культуры з расійскага Вялікага Ноўгарада, два другія месцы хору „Stars" Нацыянальнай гвардыі Рэспублікі Латвіі і хору „Ars Cantandi" Эканамічнага ўніверсітэта з Вроцлава, два трэція месцы прызначана хору „Белая вежа" берасцейскага Дзяржаўнага політэхнічнага інстытута і Міжвучэльнянаму хору пры касцёле святой Анны ў Варшаве.

У катэгорыі дзіцяча-моладзевых хароў два першыя месцы прысуджана юнацка-моладзеваму хору „Azuoliukas" з Вільні і юнацка-моладзеваму хору Гарадской акадэмічнай мужчынскай харавой капэлы імя Льва Рэвуцкага з Кіева, другое месца юнацка-моладзеваму хору гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі з Мінска, трэцяе месца моладзеваму хору „Аніна" Дзіцяча-Моладзевага цэнтра „Вікторыя" з Масквы.

У катэгорыі хароў музычных вучэльняў першае месца прысуджана хору адэскай Нацыянальнай акадэміі музыкі імя Антаніны Нежданавай, два другія месцы канцэртнаму хору мінскага Дзяржаўнага музычнага каледжа імя Міхаіла Глінкі і жаночаму хору Універсітэта культуры з расійскага Краснадара, трэцяе месца моладзеваму хору Юнацка-Моладзевай харавой школы з волжскага Канакава, што ў Цвярской вобласці Расіі.



■ Хор з Краснадара



■ Харысты апладзіруюць рашэнням журы

У катэгорыі прафесійных хароў два першыя месцы прызначана камернаму хору „Сафія" з Кіева і Дзяржаўнаму прыднястроўскаму хору з малдоўскага Тыраспаля, другое месца хору „Aukuros" з літоўскай Клайпеды ды трэцяе месца Камернаму ансамблю царкоўнага спеву „Partes" з Познані.

Спецыяльным вылучэннем за выдатную прэзентацыю царкоўнай музыкі Лівана ўганараваны праваслаўны хор „Theotokos" з Бейрута

Былі вылучаны і дырыжоры: Ірына Ангалюк з Берасця, Рамзі Саад з Бейрута, Майкл Хінейн з Лондана, Ялена Хаўліна з Краснадара, Барыс Сомершаф з Любліна ды ігумення Елізавета са Смаленска.

Паводле журы ўзровень сёлетняга фестывалю быў вельмі высокі а разнароднасць выступаючых ансамбляў вартая ўвагі. Вельмі радуе штодзённая шматлюдная прысутнасць публікі ды вялікая папулярнасць царкоўнай музыкі ў дзіцячых, моладзевых, акадэмічных і прафесіянальных выканаўцаў. Пацвярджае гэта важную ролю фестывалю, які стаў месцам узаемаразумення пакаленняў, культур і нацый. Журы падзякавала арганізатарам фестывалю, асабліва яго дырэктару Мікалаю Бушко і дырэктар фестывальнага бюро Ірэне Парфянюк.

❖Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**




Іншым разам цікава назіраць за шляхам, якім ідзе беларуская краіна да нармальных эканамічных стасункаў. Праўда, назіраць за гэтым працэсам лепш за ўсё на нейкай адлегласці, каб самому, крый Божа, не стаць яго ўдзельнікам. У адрозненні ад большасці краін-суседзяў, дзе гэтыя стасункі ўжо з большага ўсталяваліся, беларускае начальства вядзе свой народ асаблівай дарогай, ствараючы яму дадатковыя праблемы, нязручнасці спрабуючы даказаць, што гэта і ёсць найлагоднейшы пераход да іншай грамадскай фармацыі. У выніку з'яўляецца такая вычварэнская сістэма, дзе фінансаваныя за кошт дзяржбюджэту моладзевыя арганізацыі маюць права на ўсталяванне нейкіх ільгот для сваіх сяброў — бясплатнага ці са зніжкай наведвання тых ці іншых цырульняў, дыскатэк і г.д. Такія падыходы ў стварэнні нейкіх прывілеяў „для сваіх" затым пераймаюць апаненты ўлады, нават тыя, якія займаюцца бізнесам.

Адным з прыкладаў гэтага з'яўляецца салон друку „Капірфілд", які знаходзіцца на ўскрайку Мінска. Сайт фірмы, якая прапануе друкарскія і капіравальныя паслугі, месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://kapirfild.by**. Выраблены ён якасна і па-сучаснаму — уверсе галоўнай старонкі знаходзяцца выйсці на рубрыкі, у якіх таксама можна апынуцца, „пракручваючы" наяўную выяву.

Першае, што ідзе пасля выйсцяў на рубрыкі, гэта інфармацыя пра разнастайныя зніжкі, якія абвешчаны праз акцыі. Так, акцыя „Салідарнасць" прапануе зніжкі для „хрысціян, актывістаў і белмоўных". „— 30% на друк хрысціянскіх матэрыялаў, згодных з сінадальным Евангеллем, Бібліяй, евангелізацыйных, катэхітычных, літургічных, спеваў); — 20% на друк грамадскакарысных матэрыялаў, згодных з сацыяльным вучэннем цэркваў (праваслаўнай і каталіцкай); — 10% на друк беларускамоўных матэрыялаў", — распавядаецца пра акцыю. Праўда, там не тлумачыцца, якім чынам, напрыклад, даказаць сваю беларускамоўнасць — трэба папросту пры замове друку паразмаўляць пабеларуску ці паказаць нейкі дакумент, які засведчвае веданне беларускай мовы.

Акцыя „Дэмакратыя non-stop" уражвае сваёй найшырэйшай мэтавай аўдыторыяй і ільготамі для яе. Так, студэнты, выкладчыкі і настаўнікі могуць атрымаць — 50% на друк вучэбных матэрыялаў за рэпост аб акцыі ў сацыяльных сетках. „Звярніце ўвагу на нізкія кошты ч/б і каляровага друку фірмовых капэртаў, падрыхтоўку да друку, і канечне ж, на нашы акцыі! Зніжкі не суммуюцца (арфаграфія арыгінала захавана — заўв. „Нівы")", — пішуць пра свае паслугі з мноствам памылак спецыялісты па друкаванні з „Капірфілда".

Праўда, фірма карыстаецца нейкай папулярнасцю. Па меншай меры, адзін добры водгук на сайце беларускамоўнага бізнесу „Свае" яна атрымала. „Пра друкарню „Капірфілд". Усё супер! Рэкамендую! Чалавек нават заўважыў недапрацоўку схемы, што я мусіла друкаваць, патэлефанаваў, параіўся і сам паправіў! Даўно не атрымлівала столькі станоўчых эмоцый ад паслугаў (я прыдзіраўся, ага)", — напісала там нейкая Юлія Малахоўская ў лістападзе мінулага года.

Уласна на сайце „Капірфілда" не пазначацца, каму належыць дадзеная фірма, якая існуе ў форме таварыства з абмежаванай адказнасцю, і таму невядома, хто ж прыдумвае такія арыгінальныя зніжкі на свае паслугі.

❖**Аляксандр ЯКІМЮК**

ДАТА З КАЛЕНДАРА



Падзеі і асобы БНР

# 140 гадоў
## з дня нараджэння
## Вячаслава Багдановіча

Беларускі рэлігійны праваслаўны і грамадска-палітычны дзеяч Вячаслаў Багдановіч нарадзіўся ў 1878 годзе ў мястэчку Дзісна (сучасны Міёрскі раён, ці Лепельскі павет). Дакладныя дзень яго з'яўлення на свет невядомы. Паходзіў з сям'і праваслаўнага святара Васіля Багдановіча. Брат педагогаў Анатоля і Генадзя Багдановічаў. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю, потым у 1903 годзе — Кіеўскую духоўную акадэмію са ступенню кандыдата багаслоўя. Працаваў выкладчыкам біблейскай і царкоўнай гісторыі ў Віцебскай праваслаўнай семінарыі. З траўня 1907 г. у Мінску на пасадзе інспектара мясцовай праваслаўнай семінарыі. З восені таго ж года — інспектар Літоўскай духоўнай семінарыі. У 1911-1913 гг. — захавальнік Літоўскага епархіяльнага сховішча каштоўнасцей. Дэлегат Вялікага царкоўнага сабору ў Маскве ў 1917-1918 гг.

Вячаслаў Багдановіч — удзельнік Першага Беларускага З'езда, які праходзіў у Маскве 24-27 верасня 1917 г. На пачатку 1920-х гг. выконваў абавязкі рэктара духоўнай праваслаўнай семінарыі. Сакратар Літоўскай епархіяльнай рады ў 1921 г. Адказны рэдактар „Литовских Епархиальных Ведомостей" з 1919 да 20 кастрычніка 1922 г., калі пастановай Віленскай духоўнай кансісторыі выданне было зачынена. У кастрычніку 1922 г. Багдановіч арыштаваны польскімі ўладамі з архіепіскапам літоўскім і віленскім Елеўферыем (Богаяўленскім) і вывезены ў Кракаў. Мітрапалітам Дзіянісіем адлучаны ад Польскай аўтакефальнай царквы.

З верасня 1921 г. Багдановіч — сябра Таварыства беларускай школы. Быў выкладчыкам Закону Божага ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1922 г. абраны дэпутатам у Сенат Польскай Рэспублікі ад Блока нацыянальных меншасцей. Уваходзіў у Беларускі пасольскі клуб. У 1920-1930-я гг. — сябра Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні, да 28 ліпеня 1933 г. — старшыня царкоўнай Праваслаўнай камісіі пры БНК. Выступаў супраць аўтакефаліі праваслаўнай царквы ў Польшчы. Сябра Духоўнай праваслаўнай кансісторыі і епархіяльнай рады. Выкладаў у жаночай епархіяльнай вучэльні і Віленскай расейскай гімназіі.

У 1927-1930-я гг. быў кіраўніком грамадска-рэлігійнай арганізацыі Праваслаўнае беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ў Вільні. Адзін з галоўных выдаўцоў і аўтараў часопіса „Праваслаўная Беларусь", які выходзіў у Вільні ў 1927-1928 гг. Са святаром Лукашам Голадам арганізаваў у Вільні адзіны ва ўсёй Польшчы праваслаўны прыход, які падпарадкоўваўся патрыярху Ціхану і служыў у ім псаломшчыкам у 1924-1936 гг. да закрыцця храма. Да сярэдзіны 1930-х гг. звязаны з Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй. Падтрымліваў кантакты з беларускімі каталіцкімі дзеячамі і з суполкай віленскіх марыявітаў. Аўтар музыкі да некалькіх рамансаў на словы А. Пшчолкі. Паводле звестак Адольфа Клімовіча, у 1920-я гг. Багдановічу прыпісвалася аўтарства раманса „Зорка Венера" на словы Максіма Багдановіча.

У 1939 г. арыштаваны польскай дэфензівай як праціўнік аўтакефаліі. З віленскай турмы пераведзены ў вязніцу ў Картуз-Бярозе. Вызвалены пасля 17 верасня 1939 г. Перабраўся ў Вільню. З прыходам у Вільню Чырвонай Арміі арыштаваны 30 верасня 1939 г. Далейшы лёс невядомы. Паводле прыватных сведчанняў, расстраляны НКВД у вялейскай турме неўзабаве пасля арышту. Сімвалічная магіла Багдановіча знаходзіцца на праваслаўных могілках на Выгодзе ў Беластоку.

❖**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Працавіты юнацкі хор

**Размова з Паўлам ШАПЯЛЁВЫМ, дырыжорам юнацка-маладзевага хору гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі з Мінска, удзельнікам 37-га Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2018”.**



*— Які ўзрост хлапцоў з Вашага хору?*

— У нас вучацца дзеці з другога да чацвёртага класа і яны ў нас складаюць малодшы хор. У маім хоры вучні з пятага да дзявятага класа, пасля яны паступаюць у каледж, які тут жа, у нашым комплексе, і вучацца яшчэ тры гады, г.зн. пяць класаў пачатковай школы і тры курсы сярэдняй школы, г.зн. восем гадоў яны ў мяне займаюцца і ўжо ёсць 18-годкі.

*— А ці лёгка працаваць з хлапцамі, з юнакамі, іх жа цягне к спорту, за мячом, шайбай...*

— Гэта безумоўна, у такім узросце хлапец поўніцца энергіяй, яго складана ўтрымаць на адным месцы, у яго быццам прапелер ззаду, яму заўсёды кудысь трэба бегчы, нешта рабіць, пазнаваць нешта новае і таму я не ведаю, як спраўляюцца з імі настаўнікі агульнаадукацыйных прадметаў. У мяне яны займаюцца тры разы ў тыдзень па паўтары гадзіны і гэта вельмі складана засяродзіць іхнюю ўвагу, іх зацікаўленасць, утрымаць іх як узвод жаўнераў, толькі „на зважай”. І яшчэ, каб яны ўспрымалі музыку, каб яны вучыліся нейкім тонкасцям музыкі. Гэта на самой справе складана. Тым не менш, гэта неабходна. Я напісаў заяўку, каб мяне прынялі кіраўніком хору, і яны напісалі заяўку, што хочуць вучыцца ў гэтай школе, таму мы павінны рабіць сваю работу — я сваю, яны сваю.

*— Які рэпертуар такога юнацкага хору?*

— Сёлета, хачу гэта падкрэсліць, нашаму хору спаўняецца 50 гадоў. Хор быў створаны ў 1968 годзе выпускніком маскоўскай кансерваторыі Ігарам Жураўленкам. Мне вельмі сумна было даведацца нядаўна, што ён адышоў з жыцця. Наш стваральнік, які набраў спачатку адзін клас, далей набіраў кожныя адзінаццаць гадоў запар, пакінуў ужо такі моцны парастак сваім вучням. Менавіта сёлета была ў нас вельмі складаная задача — вельмі многа мерапрыемстваў, вельмі многа юбілеяў, канцэртаў. У рамках юбілеяў мы вельмі многа выступалі і ўвесь час з розным рэпертуарам. Калі нас запрашаюць прыняць удзел у прыёме пасла Украіны ў Беларусі, скажам, з нагоды юбілейнага года Тараса Шаўчэнкі, мы гатовім творы ўкраінскіх кампазітараў на тэксты Тараса Шаўчэнкі. Калі гэта юбілей прафсаюзнай арганізацыі, мы рыхтуем нешта такое аптымістычнае, радаснае, вясёлае. Калі гэта Раждзство, то мы, вядома, гатовім калядную праграму. Сёлета ў нас быў вельмі цікавы праект: мы нарыхтавалі цыкл Бенджаміна Брытэна на стараанглійскай мове — гэта таксама патрабавала нашай увагі і вялікага высілку дзяцей. Пасля мы даведаліся, што спадар Бушко запрашае нас на 37-ы Фестываль. І мы сталі паралельна гатовіцца да юбілейнага канцэрта, які адбыўся 22 красавіка, і паралельна яшчэ вывучаць новую для нас духоўную праграму, якую я падабраў менавіта для гэтага фестывалю. А таксама, канешне, нам трэба было падгатовіць творы для асобных канцэртаў у рамках фестывалю, таму вельмі багата рэпертуару, і рознабаковага. Пачынаючы з Моцарта, Шуберта, Гайдна, старая англійская музыка, музыка XX стагоддзя Брытэна. Гэта і беларуская праграма — у нас ёсць і аддзяленне беларускай народнай музыкі, праўда — у сучасных апрацоўках — дзеля таго, каб і дзецям, і слухачам было цікава. Гэта ўсё-такі павінна быць нешта свежае, свежыя апрацоўкі, падчас і некаторыя джазавыя. Вялікую долю займае ў нас духоўная музыка. Ну, і мы не можам адмовіцца ад рускай класікі, гэта Танееў, Чайкоўскі. Таму рэпертуар дастаткова разнавідны, уключаючы і амерыканскія спірычуэлз — без іх не абысціся.

*— Які радыус Вашай актыўнасці, дзе вы бываеце са сваімі канцэртамі?*

— Неабходна ўсё-такі ўлічваць, што гэта вучэбны хор, а не канцэртны. Мы павінны ўсё-такі ўдзельнічаць у вучобе, наведваць заняткі і галоўным чынам вучні павінны не канцэртаваць, а вучыцца, яны павінны атрымаць добрую базавую адукацыю. Таму галоўным чынам гэта Мінск. Можам пахваліцца толькі тым, што летась, у 2017 годзе, мы пабывалі на Днях музыкі ў Сычуанскай правінцыі ў горадзе Чэнду ў Кітаі — гэта чацвёрты горад па ліку насельніцтва ў Кітаі — 16 мільёнаў у адным горадзе. Дзецям гэта вельмі цікава. І мы там настолькі добра паказаліся, што нас запрасілі і сёлета прыняць удзел у іншым тамашнім праекце. Плануем пашыраць наш радыус, але ўсё, вядома, залежыць ад саміх дзяцей, ад іх, літаральна, здароўя. Таму што гэта вялікая праблема для хлапечых хароў, што ў іх пачынаецца мутацыя і яны выпадаюць з канцэртнага і, у прынцыпе, з пеўчага жыцця. Дзявочым харам у гэтым ракурсе намнога лягчэй — у іх усё гэта раўней. Таму — у пятым класе яны прыходзяць нямнога ўмеючы, а ў шостымсёмым яны ўжо, на жаль, не могуць, калі нават вельмі хочуць. І таму прыходзіцца нанава вучыцца, літаральна вакалізаваць, быццам аваладваць новым голасам, нанава нараджацца ў вакальным сэнсе.

*— А як Вам бачыцца Беласток?*

— Я Беластока, прабачце, папраўдзе не бачыў. Быў тут бадай больш дзесяці разоў і бачыў толькі залу філармоніі, яе рэпетыторыі, і гэта, бадай, усё. Хацелася б, вось у суботу ў нас будзе першая палова дня свабодная, і хацелася б праехацца і проста пабачыць горад. Ну, бачыў я парк побач філармоніі, нейкае месца дзе мы сілкаваліся; і ўсё. Я хачу пабачыць горад, ён вельмі змяніўся, тут нейкія новыя дарогі, я здзіўлены, тут, здаецца, усё пастаянна абнаўляецца, горад жыве, маладзее. Хачу пазнаць горад, і канешне, паслухаць у суботу выступленні самых цікавых калектываў. З нецярпеннем чакаю таго моманту і сам хачу натхніцца, магчыма ўзбагаціць свой рэпертуар, пагутарыць з людзьмі, якія займаюцца той жа справай, са сваімі калегамі. Чакаю свабоднага дня, каб і паслухаць музыку, і паглядзець ваш прыгожы горад.

*— Вялікае Вам дзякуй, жадаю Вам далейшых поспехаў.*

Гутарыў
**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую прымаўку.

1. прылада для ўзважвання = 13 _ 14 _ 18 _ 19 _;
2. рака ў Талачыне = 15 _ 11 _ 6 _ 24 _ 25 _;
3. будынак для пажарных машын = 10 _ 12 _ 5 _ 16 _;
4. гарадок між Лідай і Валожынам = 23 _ 17 _ 9 _;
5. травяністая расліна з доўгімі мечападобнымі лістамі і вялікімі кветкамі (*Iris*) = 2 _ 22 _ 1 _ 8 _ 7 _;
6. правы прыток Прыпяці, што ўліваецца ніжэй Ясельды = 20 _ 21 _ 4 _ 3 _.

(ш)

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | | | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 18 нумара**

Гідраплан, Жлобін, Кнорын, палена, Агінскі, Егіпет, ікс, Прыпяць, лінза, цешча.

Рашэнне: **Жонка не лапаць, з нагі не скінеш**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 27.05 — 02.06

**(22.03. — 20.04.)** 27-28.05. кампанейскія ці сваяцкія непаразуменні; твой праект можа прайграць з іншым. Наведай сваякоў, з якімі даўно не бачыўся. Твае дадзеныя, спачуванне, якія акажаш іншым, могуць быць выкарыстаны супраць цябе. Ёсць асобы, якія сягаюць не па сваё, нягледзячы на крыўду іншых. Пільнуйся!

**(21.04. — 21.05.)** Можаш парваць путы, якія цябе вяжуць, абмяжоўваюць. Урэшце адчуеш свабоду і незалежнасць. Ідэальныя дні на паездкі па-за месца жыхарства. Сяброўства лёгка можа перамяніцца ў каханне. Не пашкадуй грошай на штосьці, што акажацца быць неабходным.

**(22.05. — 22.06.)** Жарсная прага дамінацыі і брутальная шчырасць могуць пашкодзіць тваёй пары. Папрацуй над дыпламатычнасцю. Можаш атрымаць прапанову няблага падзарабіць. Прыдасца глыток культуры, табе і ўсёй сям'і (добра было б выбрацца на нейкае пленэрна-культурнае мерапрыемства). Наладжвай кантакты, прымай шматлікія запрашэнні. Самотным Блізнятам шыкуюцца фантастычныя рандэву!

**(22.06. — 23.07.)** 27-28.05 прыйдзецца заплаціць табе доўг удзячнасці. 27-29.05. ідэальны час на вучобу, здабыванне ўмеласцей. 28-30.05. можаш мець праблемы са сном і канцэнтрацыяй, лепш не пі кавы. Задзівіш усіх спрытам і прадпрымальнасцю. Пачуццё гумару, умеласць паразумецца з іншымі; аформіш кожную справу. Хтосьці, да каго ў цябе няма цікаўнасці, спрабуе цябе звесці; можаш спакойна пачаставаць яго чорнай поліўкай.

**(24.07. — 23.08.)** Лепш гэтыя дні правядзі дома або прынамсі адмоўся ад інтэнсіўнага кампанейскага жыцця. Больш карысці прынясуць сустрэчы ў вузкім коле сваякоў. Але на працы ніхто цябе не апярэдзіць. Не бойся канкурэнцыі! Магчымы змены ў пастаянных парах, хіба не на лепшае. Але час спрыяе рэвалюцыйным рашэнням! Глыбока дыхай, шпацыруй, слухай добрую музыку, еж прапраты з магніем.

**(24.08. — 23.09.)** Наўкол заўзятасць, неталерантнасць, грубая шчырасць. Балюча адчуеш канфлікт паміж прафесійнымі абавязкамі і сямейным жыццём. Будуць гаворкі пра твае мінулае ў шырэйшым асяроддзі. Не паддавайся стрэсу. 27-29.05. здабывай новыя ўмеласці. Грошы выдай на прыгоду!

**(24.09. — 23.10.)** Захочацца зашалець, падурэць, успомніць маладосць, а нават дзяцінства, перажыць захапляльную прыгоду. Раскручвайся на ўсю катушку! Пазмагайся за сваё! Трэба будзе радыкальна адцяцца а таго, што перашкаджае дайсці да намечаных мэт. 28-30.05. дні і ночы поўныя жарсці! Пра павышэнне на працы не гавары да 28.05. І да лекара схадзі пасля 28.05., будуць меншыя чэргі.

**(24.10. — 22.11.)** Урэшце паклапаціся сваімі справамі. Твой прафесійны рэйтынг моцна і хутка ўзрасце. Асобам, што думаюць перасмыкнуцца праз жыццё, пакажаш, дзе зімуюць ракі. Адпачывай, не натужвайся, супакой нервы. Добры час на заручыны, шлюб. Перад сном не сядзі над камп'ютарам і не глядзі жахлівікаў

**(23.11. — 22.12.)** Адкрыеш для сябе занятак, які цябе ўзбагаціць і аздаровіць усё тваё жыццё. У пачуццёвым жыцці можа паявіцца моцны сапернік, але справішся з ім, хоць не без гузакоў. Добры час для інтарэсаў. Але 27-28.05. будзеш прымушаны пагадзіцца са стратай. 28-30.05. можаш ісці на незалежнасць; Стральцы на штаце могуць пачаць амбітны праект, які ў будучыні прынясе павышэнне. 28-31.05. можа ў тваім доме паявіцца новая жывёлка.

**(23.12. — 20.01.)** Крыху горшая фізічная форма. Можаш разлічваць на добрых знаёмых, якія раскрыюць табе вочы на нейкія справы, хоць не без тваёй злосці — пасля ім падтакнеш. Прыпыні ўсе фінансавыя справы, адчакай, не слухай парад, нават, здавалася б, неблагіх. 27-28.05. час выпрабавання ў пары. Можа дайсці нават да расстання ў апошнія дні мая!

**(21.01. — 19.02.)** Дзякуючы партнёру перамажаш усе цяжкасці, а вашы адносіны папраўляцца. Не шалей у фінансах, бо можаш апынуцца ў сітуацыі без выйсця. На працы можаш уключыцца ў спрэчкі, якія будуць каштаваць цябе шмат нерваў. У апошнія дні мая магчымы нечаканы выезд за мяжу або кантакт з чужаземцам. Не адмаўляйся ад сваіх планаў, змяні стратэгію, 28-30.05. прабуй яшчэ раз.

**(20.02. — 21.03.)** Важныя рашэнні наконт тваёй кар'еры. 27-28.05. прыйдзецца табе вырашаць аб вельмі важным. Самотныя Рыбы будуць выклікаць зацікаўленне. Рыбы з першага тыдня сакавіка дасягнуць усіх сваіх мэт. Хатнія праблемы вырашыш хутка і паспяхова. Навіны ў кампаніі; можаш наладзіць кантакт таксама з асобай, з якой калісьці былі вы сканфліктаваныя. Займайся толькі сваімі справамі, бо накруцілася гора ў цябе нямала. Старайся не зважаць на хандру і меланхолію, што цябе дапалі якраз цяпер.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# ч.2. Палаван
# Філіпіны



Дарога віласся праз зялёныя, не надта высокія горы. Серпанціны не былі страшныя, пакуль бус гладка каціўся па асфальце. Але калі плюхнуўся ў бяскрайнюю калюжу, калі пачаў мясіць балота, гразнучы па воські, калі да руху ўперад далучылася слізганне ўбакі, калі трэба было спыняцца і ўключаць задні ход, каб з большым імпэтам праскочыць глыбейшыя ямы, пальцы моцна сціснуліся на спінках сядзенняў, а пот паплыў струменямі, нягледзячы на тое, што кандыцыянер у машыне працаваў з максімальнай магутнасцю. Стала ясна, чаму філіпінцы дарогу мераюць гадзінамі, а не кіламетрамі.

У Порце Бартон прывіталі нас дождж, гучная музыка і зборшчыкі экалагічнай аплаты. Балазе стаялі яны пад дашкам, дзе і мы маглі схавацца ад залевы, якая неўзабаве спынілася. Затое музыка праводзіла нас да самага пансіёна і спадарожнічала нам на працягу цэлай трохдзённай пабыўкі, паколькі трапілі мы на свята мясцовасці. А пачыналі валіць у бубны і ўключалі гукаўзмацняльнікі ў шэсць раніцы. І як на зло, на гэтыя дні, каб народ мог пагуляць, уключалі электрычнасць на даўжэй, бо звычайна святло ў Порт Бартон ёсць толькі вечарам, ад шостай да поўначы. З мясцовай мініэлектрастанцыі, бо не дацягнута туды ніякая энергалінія. Праўда, гаспадары гатэляў і пансіёнаў маюць свае генератары, якія час ад часу ўключаюць дзеля цёплай вады ці на тое, каб спацелыя турысты маглі пусціць у рух вентылятар.

* * *

Філіпіны гэта архіпелаг са звыш сямі тысяч астравоў, на амаль тысячы з якіх жывуць людзі. Найбольшыя, гэта Лузон на поўначы, са сталіцай Манілай і Мінданао на поўдні, а паміж імі раскінулася група астравоў Вісая з цэнтральным Себу. Востраў Палаван распаложаны на паўднёвым захадзе архіпелага і аддзяляе Філіпіны ад Паўднёвакітайскага мора. Вузкі і доўгі. Максімальная шырыня — не болей за пяцьдзясят кіламетраў, у сярэднім 20-30, затое ўздоўж расцягнуты на чатырыста пяцьдзясят кіламетраў. Ідэальна пасярэдзіне размясцілася сталіца вострава Пуэрта Прынцэса, з новым акуратным аэрапортам. Добрае месца на пачатак экскурсій па востраве. Многа гатэляў, гастэляў і пансіёнаў на любую кішэню, прычым усё можна забраніраваць у інтэрнэце.

Абавязкова трэба наведаць падземную рэчку Сабанг — адзін з прыродных цудаў свету, як прачытаеце ў любым турыстычным даведніку. Паколькі афармленне дазволу на ўваход у нацыянальны парк і купля білетаў можа быць складаным працэсам, лепш даверыцца ў гатэлі. Атрымаецца крыху даражэй, але ўжо наступнага дня пасадзяць вас у бус і за дзве гадзіны (з прыпынкам на фатаграфаванне затокі Гонда) давязуць да прычала, на якім зменіце транспарт на невялічку лодку і пасля чарговай паўгадзіны рушыце пехатой праз трапічны лес да вусця Сабангу. Пабачыце некалькі макакаў і аднаго варана, якія хіба на ўтрыманні парку дзеля таго, каб турысты маглі іх сфатаграфаваць. Пасля пасадзяць яшчэ ў іншую лодку і павязуць у цемру, якую будуць асвятляць толькі пражэктары стырнавых. Кожны атрымае слухаўку, у якой на выбранай мове (ёсць і расейская) можа паслухаць расказ пра ўнікальную фаўну, флору і наскальныя ўтварэнні ў гэтым падземным каралеўстве. Экскурсія заканчваецца шведскім буфетам, падрыхтаваным мясцовымі жыхарамі: суп, мяса, рыба, салаты з марскіх траў, рыс, макароны. Адважныя могуць па дарозе назад пакінуць лодку, узабрацца на гару і з'ехаць на канатцы даўжынёй у восемсот метраў. Тады абед смакуе яшчэ лепш.

Найлепшыя марскія прадукты дастаўляюць баджаа (*Badjao*) — марскія цыганы, народ без зямлі, які жыве на лодках. У Пуэрта Прынцэса непадалёк порта ёсць рэстаран «Баджаа». Іншая група, якая пакінула свой след у мясцовай кухні і якая таксама прыплыла на Палаван на лодках, гэта *boat people* з В'етнама, то-бок уцекачы ад камуністычнага рэжыму, што з'явіліся там у канцы 1970-х гадоў і прыбывалі туды цэлае наступнае дзесяцігоддзе. Заснаваныя імі вёскі цяпер апусцелі, але в'етнамскія бары з сайгонкамі сустракаюцца вельмі часта.



З Кірлет – гаспадыняй пенсіёна Санта Кляўс



На пляжы ў Порт Бартон

Даведнікі асцерагаюць, што на поўдні Палавана можна захварэць на малярыю. Тая частка вострава бяднейшая, без дарог і турыстычнай інфраструктуры. Поўнач іншая, больш упарадкаваная і багацейшая. Менавіта на паўночным мысе — адзін з найбольш папулярных філіпінскіх курортаў Эль Ніда. Порт Бартон дзесьці ў палове дарогі паміж Пуэрта Прынцэса і Эль Ніда.

* * *

— У нас усё тое ж, што і ў Эль Ніда, толькі ўдвая таннейшае, — смяецца сівы жывацясты немец, які назваўся Санта Клаўсам. — Абавязкова трэба вам узяць лодку і паплысці на *island hopping*. Нашы караловыя рыфы цудоўнейшыя. Я вас пасаджу на такую лодку, пасажырам якой заўсёды шчасціць пабачыць таксама марскіх чарапах.

Санту Клаўсу семдзесят сем гадоў. Яго жонцы Кірлет — дваццаць дзевяць. На ўзгорку, з якога відаць затоку з дзясяткам малых астраўкоў, збудавалі пансіён, які атрымаў вельмі адэкватную назву *Santa Claus Hilltop Cottages*. Гаспадар некалькі разоў наведваў Філіпіны, аб'ехаў шмат астравоў, пакуль знайшоў гэтае месца. А сваё імя апраўдвае не толькі выглядам, але яшчэ і тым, што на Каляды ездзіць па мястэчку і наваколлі пераапрануты за Святога Мікалая і раздае цукеркі мясцовай дзетвары.

Пансіён будавалі год, практычна рабочыя працавалі без машын, прытым усе будаўнічыя матэрыялы трэба было давезці.

— Вазілі што на джыпе, што на матацыкле, — расказваюць згодна муж і жонка. — А дарогі не было. Усё па балоце, праз горы.

На нашу заўвагу, што і цяпер трэба ехаць па балоце, адказваюць, што ўжо засталося можа чвэрць недаробленай дарогі. А раней яна ўся такая была, дваццаць кіламетраў, да самога Рохас, якое прытыкаецца да магістралі з поўдня на поўнач выспы. Прагрэс відавочны.

Аднак памяркоўны. Адчуваецца гэта, калі ходзім па балоцістых „цэнтральных" вулачках мясцовасці, стараючыся абмінуць большыя калюжыны, калі праціскаемся паміж ларкамі з усякай усячынай, барамі і кафэшкамі пад правізорнымі дашкамі. Разняволеныя турысты з невялікімі заплечнікамі, у шортах і гумовых басаножках упісваюцца ў навакольле, але не дамінуюць над ім.

Пра цывілізацыю можна забыцца і вечарам, калі да святла на тэрасу злятаюцца каляровыя матылі, а па парэнчах і сценах будынка бегаюць яшчаркі. Джунглі, да якіх рукой падаць, адзываюцца пранізлівым шматгалоссем. Калі гасне святло, галасы з-за сцяны набываюць не толькі моц, але і таямнічасць. Ды што тут казаць, робіцца страшнавата.

— Так, на сваім панадворку забіў я дзве кобры мачэтай, — павышае планку страху Санта Клаўс. І тут жа шырока ўсміхаецца: — Папраўдзе, то на Палаване больш людзей гіне ад какосавых арэхаў, якія падаюць на галовы разявак, чым ад змей.

З тае пары мы глядзелі ўважна не толькі пад ногі, але і пільна ўзіраліся ў кроны дрэў.

* * *

На круіз паміж выспамі выбраліся мы дзень даўжэй. Спачатку давалося мне збіваць гарачку, якая напала, відаць, з-за рэзкіх змен тэмпературы ад трапічнай духаты да халадэчы кандыцыянаваных памяшканняў і бусаў. Пры гэтай нагодзе таксама аказалася, што сучасная цывілізацыя ў Порт Бартон крыху прыпазнілася. У мясцовасці няма ні лекара, ні нават аптэкі. Гаспадар быў гатовы везці мяне ў шпіталь у Рохас. На шчасце абышлося пазычаным у суседкі парацэтамолам. Дзень пазней быў я ўжо здаровы як грыб. І паплылі.

Плаванне на каралавым рыфе ў акулярах і з трубкай — *snorkling* — куды цікавейшае за тэлевізію. Багацце жывых форм і колераў уражвае. Зялёныя і ружовыя каралы, сінія бы валошкі маленькія рыбкі, васьмінogi і медузы. Бачанае калісьці на экране і яшчэ больш нябачанага. Былі і велічэзныя марскія чарапахі, якія дастойна рухаліся па злёгку смарагдавым дне. А над імі тоўпіліся плыўцы, якія спусціліся са шматлікіх лодак, што стаялі на якары бы статак на пашы.

Калі рыф здаваўся казачным і прыязным, то адразу за яго краем палохала цёмна-сіняя бездань. І не так страшна рабілася ад глыбіні, колькі ад невядомага. Здавалася, што ў любы момант адтуль вынырне нейкі *alien*, які сядзеў там стагоддзі ў гібернацыі толькі на тое, каб дачакацца цябе і пацягнуць у сваё бяздоннае каралеўства. У вачах ставалі ўсе бачаныя ў дзяцінстве фільмы пра акул, Мобі Дзікаў і варожа настроеных да людзей прышэльцаў з космасу. Рукі і ногі аўтаматычна ўзмахваліся і як добра было зноў схавацца ў плыткім зацішшы каралаў.

На нашай лодцы былі дзве жанчыны з Даніі, швед, аўстраліец, маладая чэшская пара і мы — сям'я з траіх беларусаў з Беласточчыны. Экіпаж складалі два філіпінцы: капітан і кок, які на адным з астравоў, дзе спыніліся на дзве-тры гадзіны, каб паляжаць на пляжы, падрыхтаваў супольны абед. Да ежы, галоўным чынам з марскіх прадуктаў, прапанавалі сок з мясцовай лімонкі *calamansi* або найбольш вядомае філіпінскае піва *San Miguel*. Півам частаваў і аўстраліец, які — як дасведчаны марскі воўк — прыхапіў з сабою цэлы рукзак пукатых бутэлечак. Такім чынам развязаліся языкі, а завязаўся сапраўдны інтэрнацыянал. На канцы свету.

* * *

Тым часам у тэлефоне, які ляжаў спакойна ў пансіёне, чакала вестка. „Валэнсу абакралі ў Маніле. Ратуй прэзідэнта!" — пісаў сябра. Што было рабіць? Адзіным выйсцем падалося славутае: *Nie kcem, ale muszem*.

Хаця ў сталіцу дабраліся мы даволі хутка, прэзідэнт нас не чакаў. Ці то сам выпутаўся з тупіку, як гэта не аднойчы ўжо рабіў раней, ці былі іншыя, больш хуткія за нас памагатыя. Дык нам не заставалася нічога іншага, толькі выбрацца ў чарговае падарожжа, у горы. Але пра гэта праз тыдзень.

(працяг будзе)

**Мікола ВАЎРАНЮК**

Фота **Аліны ВАЎРАНЮК**

ISSN 0546-1960